*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

**ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ**

**ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА**

ПЯТНІЦА
**21**
ЖНІЎНЯ
1992 г.
№ 34 (3652)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)






Пімену Панчанку — 75! Паважаны ўзрост, важкія набыткі, немалы шлях пройдзены. Але нездарма кажуць: сапраўдны паэт — заўсёды малады. І справа зусім не ў тым, колькі ў яго за плячыма гэтых самых вёсен і зім. Больш важна, чым напаўняецца паэзія, што жывіць яе.

Задумваючыся над супярэчлівай рэчаіснасцю, П. Панчанка адзін з нямногіх, хто прад'яўляе самы бязлітасны рахунак і свайму пакаленню, і самому сабе. На поўны голас гаворыць ён са сваім народам. І яму ёсць што сказаць, бо П. Панчанка з творцаў, якія народныя не паводле афіцыйных тытулаў, а па прызванню.

«Без чалавечнасці — няма і вечнасці» — сказаў ён у адным са сваіх твораў. Словы гэтыя сёння набываюць асабліва глыбокі сэнс і ў дачыненні да самога паэта. Чалавечнасць П. Панчанкі — асобы і творцы — зарука таго, што ён заўсёды нам патрэбны. Няма беларускай літаратуры без П. Панчанкі, як няма і П. Панчанкі без беларускай літаратуры.

З днём нараджэння, дарагі Пімен Емяльянавіч! Яшчэ доўгіх год жыцця Вам, новых твораў!

**Матэрыялы пра юбіляра чытайце на стар. 6—7.**

**М. З. — Што ж тут зробіш — рэспубліка, якая не мае ў дастатковай колькасці такіх прыродных рэсурсаў, як вугаль, нафта, руды, мушана была інтэграваць у эканоміку былога Саюза. І цяпер рваць гэтыя сувязі?**

**М. Т.** — Гаворка ідзе не пра тое, каб наглуха адгарадзіцца ад суседзяў. Проста трэба думаць і пра іншыя арыенціры. Ёсць жа Еўропа, Азія, Бліжні Усход. Скажам, можа, нам і не патрэбна такая, як цяпер, металаёмістая прамысловасць. Мне нядаўна расказалі, што БелАЗ затаварыўся на сотні мільёнаў рублёў — яго прадукцыя ў той жа Расіі, іншых краінах СНД перастала карыстацца попытам.

**М. З. — Вырабляць прадукцыю не ведаючы, ці знойдзе яна попыт — гэта наогул нонсенс. Любы прадпрымальнік у свабодным свеце расцаніў бы гэта як самагубства. Такое магчыма толькі пры сацыялізме...**

**М. Т.** — А наша шматпакутная сельская гаспадарка... Хто хацеў, той з яе і здзекаваўся. Хоць бы той жа былы першы сакратар ЦК КПБ Сакалоў з яго ідэяй фікс — будаўніцтвам жывёлагадоўчых гігантаў, якія не апраўдалі сябе эканамічна, не кажучы ўжо пра тое, што нанеслі непапраўную шкоду прыродзе. І яму ж было не запярэчыць...

Шэраг сур'ёзных спецыялістаў, я ведаю, лічаць, што нам трэба скарэкціраваць структуру нашай сельскай гаспадаркі. Зараз значную частку жывёлагадоўчай прадукцыі рэспубліка экспартуе. Падлічана, што ўлічваючы сабекошт мяса, вывозіць яго на продаж за межы рэспублікі нявыгадна.

**М. З. — Тут, відаць, усё больш складана. Зусім нядаўна ў газетах прамільгнула інфармацыя, што многія мясакамбінаты рэспублікі затаварваны. Прычына — гандаль не бярэ мяса. Гэта пры пустых паліцах.**

**М. Т.** — Што ў нас за год амаль не кранулася з месца — дык гэта прыватызацыя гандлю. Па-ранейшаму правіць баль дырэктар дзяржаўнага магазіна. Вось хто сапраўдны гаспадар жыцця. А колькі крыві вам папсуюць у той жа дзяржаўнай майстэрні па рамонце абутку, адзення, цырульні. Гэта ўсё аб'екты, якія даўно трэба было прыватызаваць. Дробны і сярэдні бізнес — вось на чым трымаецца дабрабыт многіх краін Захаду.

**М. З. — Простаму чалавеку, выхаванаму савецкай сістэмай, любы бізнес не па натуры. І наогул, ці гатовы мы прыняць заходнія маральныя каштоўнасці? «Савок» прывык жыць па прынцыпе — хай мне будзе блага, але каб і суседу не было лепш. Хоць той сусед мо чалавек прадпрымальны, кемлівы, энергічны, а сам зайздроснік — гультай з гультаёў.**

**М. Т.** — Я з вамі пагаджаюся, як кажуць, на сто працэнтаў. Але, думаю, што калі чалавек адчуе смак уласнасці, у яго пачне мяняцца і псіхалогія. Але на гэта, вядома, спатрэбіцца час.

**М. З. — Пакуль што ў савецкім духу нашу моладзь выхоўвае і школа, і інстытут і, дарэчы, армія.**

**М. Т.** — Сітуацыя ў арміі мяне вельмі непакоіць. У праграмных дакументах Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады з самага пачатку дэкларавалася неабходнасць стварэння беларускага войска. Тады гэта здавалася нязбыўнай марай. Хоць мы разумелі, — далей так працягвацца не можа, не могуць далей нашы дзеці гінуць у імперскай арміі ў мірны час, не павінны ўдзельнічаць у якасці «пасрэднікаў» у міжнацыянальных канфліктах. Кожная самастойная дзяржава павінна мець сваю армію. Гэта аксіёма. Калі мы былі ў Польшчы ў час урачыстасцей з нагоды гадавіны Грунвальдскай бітвы, нас уладкавалі начаваць у армейскіх казармах, дзе ўдалося пабачыць жыццё польскага вайскоўца, як гаворыцца, знутры. Адразу кінулася ў вочы нейкая хатняя атмасфера ў казарме, паважлівыя адносіны паміж салдатамі, салдатамі і афіцэрамі. Ні таго крыку, хамства, мацернай лаянкі, як у нашым ваенным асяроддзі. Мы разгаварыліся з польскім палкоўнікам, і я пацікавіўся ў яго, чым ён тлумачыць гэткую шчырую, прыязную атмасферу ў польскім войску. Ён адказаў прыкладна так: у нас усе салдаты, як правіла, адной нацыянальнасці, адной веры. Што нам дзяліць? З кім высвятляць адносіны? І потым гэта не ў традыцыях польскай арміі.

Я тады падумаў, а чаму Беларусь з яе 10-мільённым насельніцтвам не можа мець свайго кампактнага, тысяч на 60—70 войска? Мы ж ні на каго не збіраемся нападаць, а для эфектыўнай абароны яго хопіць.

**М. З. — Не разумею вашай скрухі. Пастановай Вярхоўнага Савета рэспублікі створана Міністэрства абароны Беларусі, прызначаны міністр абароны, беларус па нацыянальнасці, генерал-палкоўнік Казлоўскі. Фарміруецца беларускае войска. Што яшчэ?**

**М. Т.** — Мяне непакоіць, што ў гэтай арміі ўсё засталося па-старому. Праўда, пачаўся прызыў у армію юнакоў з Беларусі, але ў ёй па-ранейшаму служаць ураджэнцы рэспублік Сярэдняй Азіі, Каўказа. Афіцэрскі корпус на 80 працэнтаў складаецца не з беларусаў. У генералітэце таксама такая карціна. У мяне, як у грамадзяніна, узнікае пытанне да ваеннага міністра Казлоўскага — чаму армія, якую ён узначальвае, не прысягае на вернасць Беларусі? Што, нарэшце, перашкаджае прысягнуць свайму народу самому міністру абароны? Ён што, усё яшчэ думае, выбірае вары-

**(Працяг на стар. 4).**

# ШЛЯХ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ



**Вядомы ў беларускіх асяродках Амерыкі як доктар-гісторык і журналіст Янка Запруднік амаль паўсотні год шукаў свой шлях на Бацькаўшчыну, марыў і марыў пра дзень, калі свабодна і з непрыхаванай радасцю будзе хадзіць па вуліцах беларускай сталіцы. На здымку ён справа. Лёс Я. Запрудніка, хоць і драматычны, разам з тым у многім ён узорны для нас і павучальны. На Бацькаўшчыну Я. Запруднік прыехаў не толькі, каб пабачыцца з роднымі ды наведаць любае сэрцу мястэчка Мір, найперш ён запрошаны выступіць з лекцыяй на навукова-практычнай канферэнцыі, якая адкрываецца ў Маладзечне.**

**— Я шмат блукаў па свеце, доўга шукаў сваё разуменне, сваю ісціну, і, здаецца, знайшоў іх. І цяпер як быццам нясу сваю ношу назад, дадому.**

**Пасля выхаду на пенсію, Я. Запруднік працуе над кнігай «Гісторыя Беларусі» для амерыканскага выдавецтва. Можа, і да нашых паліц дойдуць неўзабаве працы і навукоўца Я. Запрудніка і іншых таленавітых землякоў замежжа.**

**Сяргею Карніловічу (ён у цэнтры), нібыта прасцей было прыязджаць на бацькоўскую зямлю. Бо маладзейшы ўзрост падчас вайны рэабілітоўваў ягоную замежную «прапіску». Ці не дзесяты раз Сяргей на радзіме, але ўпершыню гэтак вольна і незалежна ён крочыць па ёй. Вядома, на двары іншы час. Гэты руплівы і ахвярны чалавек арганізаваў вялікі збор медыкаментаў і адзежы для дзіцячых прытулкаў, якія прывёз сюды, і сам развозіў па розных гарадах.**

**А 44-гадовы Яўген Лецка (злева) нарадзіўся, вырас і сталеў на старажытнай Навагрудчыне. Шмат пахадзіў, паездзіў па роднай Бацькаўшчыне, пакуль не выспела думка — стварыць такую суполку, якая б звязвала, згуртоўвала і збірала беларусаў, дзе б яны ні жылі. І вось такая суполка ёсць, і назва яе самая адпаведная — «Бацькаўшчына». А Я. Лецка, як і належыць, яе старшыня.**

**Міністр замежных спраў Пётр Краўчанка быў даволі ўзрушаны — гэтыя трое ўручылі яму асабістае запрашэнне на XX сустрэчу ў невялікім гарадку пад Нью-Йоркам.**

**Але галоўная сустрэча яшчэ наперадзе, праз год, на роднай зямлі, па якой яны крочаць.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

Фота аўтара.

# КАНТАКТЫ БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ

Праграмай візіту ў Рэспубліку Беларусь дэлегацыі парламента КНР на чале з намеснікам старшыні Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Сайфуддзінам Айцзэцзі была прадугледжана сустрэча з актывістамі таварыства «Беларусь — Кітай». Гэта сустрэча адбылася 14 жніўня ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. На сустрэчы адбылася плённая гаворка аб перспектывах культурнага супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі. Старшыня рэспубліканскага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежжам А. Ваніцкі, вітаючы гасцей, адзначыў, што нават у нялепшыя часы нашай нядаўняй гісторыі Беларусь і Кітай мелі добрыя стасункі ў галіне культуры; што мастацтва заставалася трывалым мастом паміж двума народамі, калі іншыя формы супрацоўніцтва былі па вядомых прычынах абмежаваны.

Народны дэпутат рэспублікі А. Вярцінскі, старшыня таварыства «Беларусь — Кітай», прывёў канкрэтныя прыклады творчых кантактаў дзеячаў культуры Беларусі і Кітая, у прыватнасці — публікацыі кітайскіх пісьменнікаў у беларускай перыёдыцы і выданні беларускай літаратуры ў Кітаі.

С. Законнікаў расказаў гасцям аб першым знаёмстве з літаратурай Кітая, якое адбылося для яго ў далёкім дзяцінстве. Сайфуддзін Айцзэцзі і іншыя члены дэлегацыі з задавальненнем канстатавалі поспехі культурнага супрацоўніцтва і выказалі спадзяванне, што яно будзе мець працяг у новых умовах, калі Беларусь і Кітай ладзяць кантакты без пасрэднікаў.

**НАШ КАР.**

— з нацыянал-патрыятычнай кукардай. І птушаня, якога яна выседжвае,— усё той жа імперскі монстр, вяртанне якога сарваў мінулагодні жнівень. А што тычыцца абвінавачанняў дэмакратыі ва ўсіх сённяшніх бедах і няшчасцях, дык гэта нахабная, інакш не скажаш, спроба ў каторы раз навесці цень на пляцень.

Калі адбываецца землятрус, ніхто ў гэты страшны момант не думае пра тое, што яму папярэднічала, не згадвае складаныя тэктанічныя працэсы, якія вякамі назапашваліся ў нетрах зямлі, утвараючы гіганцкія напружанні зямной пароды. Людзі бачаць толькі тое, што перад вачыма—міг катастрофы, жахлівы яе вынік, хоць тэктанічныя працэсы, менавіта ўтвораныя імі напружанні і выклікалі бязлітасны ўдар стыхіі. Так і ў сённяшнім грамадстве: мы бачым толькі вынік сацыяльнага і палітычнага землятрусу, які раскалоў і разарваў на кавалкі непахісны, як нам здавалася, маналіт «чырвонай імперыі», бачым толькі бездань галечы, у якой апынуліся пасля штуршка, толькі разбураную эканоміку, толькі суцэльны заняпад. І ўсё гэта звязваецца ў нашай свядомасці з дэмакратыяй, з пераходам да рынку, з усім тым новым, што спрабуе ўсталявацца на хісткай, няпэўнай глебе постімперскай, посткамуністычнай рэчаіснасці. І ўзнікае настальгія па жыццю «да штуршка», па бараку, дзе ў нас быў абжыты куточак, мізэрны, але гарантаваны заробак, дзе мы былі забяспечаны калі не ўсім, што чалавеку трэба, дык хоць самым неабходным, і цягне нас у гэты барак, як старога зэка ў турму. На гэтым і граюць камуністычныя актывісты, расейскія ампілавы і беларускія (беларускія?) чыкіны, націскаючы на клавішы народнай роспачы, на клавішы настальгіі па андропаўскім паліцэйскім па-

**(Працяг на стар. 4).**

# На паклон да песняра

По добрай звычцы, у гэты дзень ішлі сюды людзі. Ішлі, каб пабыць разам з песняром, падумаць, параіцца... А ў наша сённяшняе бязладдзе такія «дыялогі» вельмі неабходныя. І дзядзька Якуб, як жывы з жывымі, гутарыць, супакойвае...

Ля песняровай магілы і ў сёлетнюю гадавіну смерці было людна. Пасля ўскладання кветак выступілі С. Законнікаў, дацэнт Белдзяржуніверсітэта В. Казлова, А. Мальдзіс, М. Аўрамчык і П. Прыходзька.

Сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч, падзякаваў прамоўцам і ўсім прысутным і запрасіў грамаду на рэспубліканскае свята паэзіі, што адбудзецца на радзіме песняра 6 верасня.



Ля магілы песняра. Фота А. САСІНОЎСКАГА.

**К. СЦЕПАНЮК.**

«ЯК НА ВАШУ думку: Адраджэнне — гэта «вяртанне» ці «стварэнне»?» — задае пытанне ў лісце ў рэдакцыю работнік культуры з Віцебска Л. Міхневіч. Пытанне, на першы погляд, гучыць абстрактна, адцягнена-філасофскі, але, як часта гэта здараецца, роздум над ім прымушае больш пільна зірнуць на звыклыя рэчы.

Разважаючы над гэтым пытаннем, я перагарнуў падшыўкі газет, якія пісалі і пішуць пра Адраджэнне, перачытаў адпаведныя выступленні пісьменнікаў і палітычных дзеячаў, перагледзеў свае нататнікі... Дык, ведаеце, высветліў, што і сапраўды семантыка Адраджэння, ягоны сучасны пафас пабудаваны на матыве ВЯРТАННЯ. «Пошукі страчанага вобраза»; «нам трэба вярнуцца да адвечнага ладу-складу нашай душы»; «вяртанне ў Еўропу»; «вяртанне да каранёў»... Прачнуцца, узняцца, памкнуцца... Хаця не — апошняе гучыць рэдка, як дадатак да таго, апорнага паняцця — ВЯРТАННЯ. Выходзіць, супярэчлівасць — адначасова і вяртацца і мкнуцца наперад?

**ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ**

# ВЯРТАННЕ Ў ЗАЎТРА

## Роздум над абстрактным пытаннем

ВЯРТАЦЦА ўвогуле лягчэй, чым ВЫЗНАЧАЦЦА, г. зн. ладзіць нешта новае, сваё, тоеснае сваім жаданням — дапасоўваць жыццё да фатальна няведанага свету будучыні. Свет мяняецца штохвіліна, і ўсе ўчарашнія звычкі, норавы, традыцыі, правілы ўжо не адпавядаюць новай рэальнасці. Запыняцца на ўчарашніх здабытках і грамадскіх канструкцыях—значыць страчваць адчуванне рэальнасці.

Паспрабуем самым павярхоўным чынам прасачыць гэта на нашым жыцці. Сучасныя адраджэнцы якога-небудзь дзядзьку Антося з-пад Маладэчні агітуюць вяртацца — кудысьці туды, да таго, чаго ён быццам выракся. Але... дзядзька Антось зусім няблага пачуваецца й тут, на тутэйшай зямлі і з тутэйшаю моваю. Іншага краявіду і інакшае мовы ў яго няма, таму няўцям дзядзьку, чаму ён павінен кудысь вяртацца. Ён — сам сабе пан (ці, ва ўсякім разе, хоча ім быць). Гэта яго ўпрошваюць жыць рэспубліканскія газеты (чытай лозунгі «Народнай газеты» і інш.— аўт.), калі пішуць — «Жыві, Беларусь!» Бедная Беларусь... Жыві, бедны дзядзька Антось... А той дзядзька і не збіраўся паміраць, ён дбайна гаспадарыць на зямлі і зусім не вымірае, у чым яго рупяцца пераканаць. Дзядзька Антось — жывы!

Яму, аднак, не хапае сваёй Улады і сваіх палітыкаў. Але гэта не ёсць вяртанне; гэта — справа будучага, справа СТВАРЭННЯ — сваёй Улады і сваіх палітыкаў.

Да чаго заклікае агітатар-адраджэнец схільнага да рэфлексіі інтэлігента? — «Людзьмі звацца!» Заклік, які арганічна дапасоўваецца да нейкага бандзюгі-злачынца, што пераступіў усе рамкі чалавечнасці і якога чалавекалюбівае чалавецтва мусіць выцягваць на паверхню, да прыстойнае маралі. Але каб гэтак жа і да інтэлігента, за плячыма якога—гады, праведзеныя ў бібліятэках... Тут ужо робіцца непамысна і нейк крыўдна—за сябе, каго ўспрымаюць такім чынам.

Таму ж рускамоўнаму беларускаму інтэлігенту дзяржава загадвае прымаць беларускую мову, сарамаціць за пагарду да роднага слова, родных каранёў, г. зн. цісне на яго аргументамі маралі. А патрэбна было б прапанаваць аргументы КУЛЬТУРЫ. Інтэлігенту, які ў адрозненне ад дзядзькі Антося з-пад Маладэчні прымае культуру не як краявід, але як тэкст, найперш патрэбны інтэлектуальныя тэксты — філасофскія, паліталагічныя, тэалагічныя, эзатэрычныя і г. д. ЭЛІТАРНЫЯ тэксты, праз якія ўспрымаецца сэнс той ці іншай культуры. Менавіта недахопам такіх беларускіх тэкстаў можна растлумачыць пасіўнасць інтэлігенцыі ў Адраджэнні, бо ўсё зводзіцца да палітычнага канфармізму, гэта, ведаеце, прымітыўна.

Дарэчы, пакуль што Адраджэнне наша і было заснавана пераважна на механізмах палітыкі, што само па сабе ў пэўнай ступені кампраметуе яго як і кожную ідэалогію, якая навязваецца ў якасці дзяржаўнай, афіцыйнай. Але ж абвяшчэнне незалежнасці і прыняцце пэўных законаў у сферы культуры — гэта яшчэ не Адраджэнне, а толькі яго перадумовы. На дэкларацыі місія дзяржавы сканчаецца, далей весці Адраджэнне мусіць сама культура — не змушаючы грамадства прымаць беларушчыну адным мэнтам, без разваг. Культура гаворыць сама за сябе. ёй не патрэбны агітатары — калі гэта сапраўды культура.

Культура мусіць мець адпаведнікі новым з'явам жыцця. Паэтычны ўзровень Адраджэння пачатку стагоддзя быў зусім натуральным: беларусы тады ствараліся як нацыя сялянская. Я не зусім разумею папрокі ў бок «нашаніўцаў» (Луцкевічаў, Цёткі і інш.) з нагоды іх «сялянскасці», маўляў, шляхетных радоў людзі, высокаадукаваныя,— навошта яны прыпадабняліся да сялянскае масы? Але ж пафас сялянскасці быў адэкватны тагачаснай нацыянальнай задачы, якая і заключалася ва ўздыме беларускага сялянства. Пра інтэлігенцыю як апірышча нацыі гаворка не йшла.

Для нашаніўскае і паслянашаніўскае пары вяршыняй нацыянальнай думкі быў Янка Купала.

Як тое ні дзіўна адзначыць, але апорная семантыка нашаніўскае пары амаль нязменнай выкарыстоўваецца сучасным адраджэнствам. Тое ж цытаванне прадмовы Ф. Багушэвіча, вершаў Я. Купалы... Той жа пафас сялянскасці (народнасці). Але звышзадача сучаснага Адраджэння іншая — стварэнне нацыянальнай эліты як носьбіта вышэйшых, рацыянальных ведаў пра гэты народ і яго культуру. Гутарка ідзе пра нацыянальную рэфлексію, самаразуменне — як пераадоленне паэтычна-эмпірычнага ўзроўню культуры. Трыбунная паэзія сёння не адэкватная культурнай сітуацыі, яна толькі агульнае тло, на якім могуць развівацца далейшыя, сутнасныя падзеі ў беларушчыне.

Сутнасныя падзеі — гэта СТВАРЭННЕ збору беларускіх філасофскіх тэкстаў, якія б транслявалі вышэйшыя веды пра культуру — і саму культуру. Калі тую ці іншую нацыянальную культуру не выпадае прачытаць, дык як жа яна можа наладзіць сумоўе з іншымі, «чытабельнымі» культурамі? Напрыклад, з культурай рускай?..

Такім чынам, зводзіць Адраджэнне да новых патрыятычных вершаў і цытавання колішніх лозунгаў — значыць, інтэлектуальна кампраметаваць сам рух, асуджаць яго на зацыкленасць і прабуксоўку. Ці не тое мы і назіраем зараз?

Не кажу, што не патрэбны вершыкі, дэкламаванне беларушчыны, палітычныя лозунгі. Яны патрэбны — але толькі як здабыткі мінулага, з якога вырастае новае, больш складанае жыццё. Жыццё інтэлектуальнае.

Для беларускага інтэлектуальнага жыцця Янка Купала мусіць быць мінулым, а не будучым. Ён — наш духоўны абуджальнік, але і толькі. Адштурхнуўшыся ад Купалы, мы мусім жыць далей уласным розумам — і каб ён не адставаў ад інтэлектуальных здабыткаў свету, валодаў імі.

Інтэлектуальная праца ў беларушчыне толькі-толькі пачынаецца. Набывае акрэсленасць дзейнасць Скарынаўскага цэнтра, цікава працуе Беларускае навукова-гуманітарнае таварыства (мае ззацца Беларускім Інстытутам Еўропы), ад нумара да нумара кшталцуецца віленская газета «Наша Ніва», у якой па-беларуску можна прачытаць Ч. Мілаша, Х. Борхеса, А. Камю, Дж. Сэлінджэра, а таксама цікавую арыгінальную эсэістыку і публіцыстыку, скіраваныя на абдумванне беларускага светапогляду і стану культуры. Мне не даводзілася чытаць такога кшталту канкурэнтаздольныя рускамоўныя тэксты альбо тэксты рускамоўных аўтараў, якія бяруцца палемізаваць з адраджэнцамі. Такія нацыянальныя тэксты, літаратура гавораць самі за сябе, і знікае неабходнасць упрошваць кагосьці альбо агітаваць любіць беларушчыну — яна сама пераконвае такім сваім зместам.

Матыў вяртання шкодны тым, што выслабаняе ад самастойных, драматычных высілкаў — маўляў, УСЁ ўжо дзесь было, толькі трэба пашукаць у гісторыі. І знаходзіцца — фантом сярэдневечнай беларускай дзяржаўнасці, як індульгенцыя ад палітычнай барацьбы за сучасную беларускую дзяржаўнасць; у XII стагоддзі знаходзіцца беларуская мова, і гэтай весткай можна пляжыць мовы суседніх дзяржаў і народаў... Так цераз адраджэнскую натхнёнасць пачынаюць прабівацца сімптомы шавінізму, а да такіх з'яваў супольніцтва заўсёды ставілася з пагардай.

Апошняе, дарэчы, можа падарваць маральны аўтарытэт Адраджэння, адпрэчыць ад яго прадстаўнікоў іншых культур, што жывуць і працуюць у Беларусі. Нельга таксама не заўважыць, што найбольш схільныя да пазначанай хваробы адраджэнцы — канфармісты савецкага часу, якія вынеслі гэтую схільнасць са сваёй эпохі. Гэты атрад адраджэнцаў можна зразумець: у іх аб'ектыўна няма свайго праекту РАБОТЫ, таму застаецца толькі АГІТАЦЫЯ — аргументамі мінулага, гісторыі. Агітацыя, як вядома, падмяняе сабой работу, калі на апошнюю ўжо не хапае часу...

Але нельга вярнуць неіснуючае. Рэальным плёнам культуры можа быць штоімгненная стваральная праца, пошукі дапасавання нашага жыцця да новых рэалій. Жыццё, прынамсі, патрабуе, каб нацыя мела перад сабою пэўную планку, якую мусіць узяць. Калі планка нізкая — паэтычнае Адраджэнне, — дык скуль узяцца ўнутраным сілам дзеля самаразвіцця? Гэтак і спартсмен ніколі не паставіць рэкорда, калі не будзе мець перад вачыма спакуслівае мэты.

ВЯРТАННЕ можна прыняць хіба як метафару руху наперад, СТВАРЭННЯ. Хоць стылёва гэтыя паняцці адрозныя: ствараць — гэта нешта тэхналагічнае, рацыянальнае; вяртацца — вобразнае, рамантычнае, біблейскае. Патрэбна мера спалучэння таго і другога. Ці знойдзе яе адраджэнскі рух?

**Юрась ЗАЛОСКА.**

**РЭЗАНАНС**

# МОВА І МЕНТАЛІТЭТ

Добра, што «ЛіМ» друкуе артыкулы аб народнай псіхалогіі, беларускім менталітэце (Валянціна Акудовіча — № 15; Эдуарда Дубянецкага — № 23, 1992 г.). На Беларусі бракуе такіх даследаванняў. Шукаючы кірункаў па вывучэнню нацыянальнага менталітэта, трэба звярнуць увагу першнаперш на мову, дзе адлюстравана філасофскае асэнсаванне свету.

Паняцце «існасць» паходзіць ад праславянскага «jestь», якое блізкае да «ёсць», «маецца». Але ў раманскіх мовах гэтае паняцце гучыць «верытас» ад кораня «вера»; у грэцкай мове «алетэйа» блізкае да паняццяў «несхаванасць», «неўтоенасць». Гэтыя прыклады выяўляюць рознасць, адмысловасць уяўлення Свету ў розных мовах, у розных этнасаў.

Паняцце «прастора» ў нямецкай мове гучыць як «раум». Але гэта і «прастора» і «пустата свабодная ад усяго, чыстая». Расійскае ўсведамленне прасторы — «пространство» мае той жа корань, што і «страна» — «краіна».

У беларускай мове няма слова дакладна адпаведнага расійскаму «пространству». Паняцці «разлегласць», «абсяг», «абшар» не маюць расійскага размаху: «степь да степь кругом», «широка страна моя родная». Бо ў беларускім менталітэце існуе схільнасць не да бязмежжа, а да лакалізацыі месца: «дарагая тая хатка, дзе мяне радзіла матка» (прымаўка), «...краю родны, краю гожы, родны кут маіх дзядоў, што мілей у свеце Божым, гэтых светлых берагоў...» (Якуб Колас «Сымон Музыка»).

Расійскае паняцце «время» паходзіць ад праслова «веремя» — «вертеть» — «круціць». Адсюль і цыклічны вобраз кола Гісторыі. Германскае «цайт» паходзіць ад слова «цыен» — «цягнуць» і ўспрымаецца як паўздоўжны вобраз. Беларускае слова «час» (у расійскае мове слова «час» мае іншы сэнс) паходзіць ад старажытна-славянскага «чаці» — чаяці — чакаць». Расійскі лінгвіст А. Прэабражэнскі («Этнологический словарь русского языка», Москва; 1914 г. «выпуск последний», стр. 54) перакладае беларускае слова «часаваць» як «временить, ожидать». Як і паняцці «прастора — разлегласць» паняцце «час» нясе ў сабе працягласць, нетаропкасць уласціваю беларускаму менталітэту прамарудлівасць.

Цікавыя асаблівасці назіраюцца ў нацыянальных сістэмах мыслення. Так для Захаду ўласціва логіка сілагізмаў Арыстоцеля: «гэта ёсць тое і тое...» («Сакрат ёсць чалавек...» і г. д.).

Для расійскай логікі Г. Гачаў (Масква) выводзіць формулу: «не тое, а... што»: «Не, я не Байран, іншы я...» (М. Лермантаў); «Не так Вам млевіцца прырода...» (Ф. Цютчаў); «не Напалеон, а Кутузаў» (Леў Талстой) і г. д..

З усталяваўшайся расійскай логікі, паводле Гачава, паходзіць палемічнасць расійскай думкі, крытычны рэалізм у літаратуры.

Выяўленне асаблівасцяў беларускага мыслення і характару з'яўляецца вельмі патрэбнай справай.

Бо трэба ведаць, адкуль у беларусаў звышгатоўнасць да кампрамісаў і згоды, жыццё па прынцыпу «абы ціха», якія вядуць да абмежавання сваіх інтарэсаў на карысць партнёраў, зменшвае актыўнасць, адводзіць беларусам другародную ролю ў Свеце.

**Сяржук ЯЗЕРСКІ,**
**псіхатэрапеўт.**
г. Мінск.

# БУДУЦЬ!

## Пімену Панчанку — 75

Купалаўскі ліпень, панчанкаўскі жнівень. Адзін за адным, адзін з адным. Пімен Панчанка ішоў следам за вялікім Янкам Купалам. Як спадчыннік, як пераемнік традыцый бацькі нацыі беларускае. Лёс быў літасцівы да Пімена Панчанкі, лёс вялікадушна дазволіў яму чуць, бачыць Янку Купалу, адчуць увагу пачынальніка новае беларускае літаратуры. Дазволіўшы сабе пэўную высакапышнасць фразы, можна сказаць, што паэт Пімен Панчанка нарадзіўся пад сузор'ем Янкі Купалы, а гэта значыць, што вырачаны на вечную любоў да беларушчыны, на любоў пакутную, самаахвярную.

Пімен Панчанка — Народны паэт не чарговым указам чарговага ўрада, а любоўю і пашанай народнай, верай народнай у свайго паэта як заступніка, як наўрымсніка, як непахісніка. Народны і сваёй самаадданасцю народу, рашучасцю сказаць і слова замілавання і слова горкае праўды.

І натуральна зазірнуць у Беларускі народны каляндар, складзены нястомным працаўніком на ніве адраджэння беларускага, крывіцкага духу Уладзімірам Васілевічам. Што ж кажа Народны каляндар пра дзень нараджэння Народнага паэта? Чытаем: «Гаспадарчыя работы тым часам змянілі адна адну, і селянін ужо выпраўляўся малоць новае збожжа: «На Лаўрына спяшай да млына». Выслоўе лёгка, ужыўшы асацыятыўную рыфму, пачуць і так: «На Пімена спяшай да млына». Бо жнівень — месяц ураджаю. І творчага. Сам жа паэт тлумачыў паходжанне свайго імя ў нядаўнім новым вершы. Пімен па-гарэцку — пастух. І звычайны пастух і ў сэнсе пастыр духоўны. Бо сапраўдны паэт і ёсць пастыр душаў людскіх, і пастух родных словаў. Паства вялікая!

І пасвіць Пімен Панчанка беларускае слова яшчэ з перадваенных гадоў. І статак у яго капрызлівы і сам пастух характар мае круты. Панчанкаўскі статак увесь час наравіў залезці ў шкоду, зрабіць патраву на агароджаных калючымі дратамі ГУЛАГаў палетках прасаветызаванай ідэалогіі.

Народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Беларусі і былога Саюза, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі не аднаго склікання, сталы аўтар хрэстаматый і анталогій. Усё гэта Пімен Панчанка.

На першы позірк, што называецца, пясняр культу і застою, абласканы партыяй і ўрадам. Але толькі на першы позірк. Не памылюся, калі скажу, што сумнай славы Галоўліт са страхам чакаў кожнае новае нізкі паэта, кожнае новае кнігі. Лес алоўкаў і вёдры пасты для шарыкавых ручак звялі чэкісцка пільныя галоўлітчыкі, забараняючы, правячы, крэслячы, рэжучы па жывым целе паэзіі. Неяк аднойчы ў самы паўдзён брэжнеўшчыны Пімен Панчанка ў амаль адчаі казаў, што ў яго назбіраўся важкі том вершаў, забароненых савецкай цэнзурай.

Гэта пішу не ў апраўданне сумлення паэзіі Пімена Панчанкі, яно па-бегамельску крынічна-баравое, проста для даведкі маладзейшае змене, якая ўсё і ўсіх адмаўляе.

Радок любімага народам паэта прабіваўся зялёным трыпутнікам з-пад плітаў сталінскага - сацрэалізму, з-пад плітаў зашоранай цэнзуры, з-пад свінцовых чаравікоў ідэолагаў ад райкома да ЦК. І заставаўся панчанкаўскім, а гэта значыць бескампрамісным і задзірыстым, непаўторным і няскораным, наватарскім і класічным. У нашае крытыцы на добры лад можна ўвесці гэтакі тэрмін як панчанказнаўства, а ў філалагічных установах — цэлы курс панчанкалогіі.



Пімен ПАНЧАНКА і Еўдакія ЛОСЬ.



П. ПАНЧАНКА з сябрамі з Далёкага Усходу і Узбекістана.

Фота Ул. КРУКА.

Сапраўднасць паэта і таленту ягонага пазнаецца на крутых паваротах часу. Варта толькі нагадаць пра некаторыя павароты нашае гісторыі, селекцыязаванай бальшавіцкім рэжымам, каб пераканацца яшчэ і яшчэ ў сапраўднай непаўторнасці паэзіі Пімена Панчанкі.

Перадвайна. Аддаючы вымушаную даніну часу, паэт больш увагі ўдзяляе вечнаму ў жыцці і зямному, блізкаму да нябёсаў, бачачы, як шчупак у затоне ломіць аер, як садоўнік беліць ногі вішням, як вогнішчамі палаюць восеньскія сады. І ва ўсім адчуванне трывогі, навалы, пажару.

Вайна. Самыя шчырыя, самыя праўдзівыя, самыя, кажучы па-вайсковаму, выбуховыя і разрыўныя ў нашай паэзіі вершы — вершы Пімена Панчанкі. І як біла выжлаватая крытыка за адзін толькі радок, якім пачынаўся верш: «У мяне не забілі нікога — ні маці, ні жонкі, ні брата». Патрабавалася простая логіка: у мяне забілі — я заб'ю. Па старым Запавеце: вока за вока... Зусім не па-савецку выглядаў герой з аднайменнага верша. Верш знаёмы ўсім, а ўтрымацца цяжка, каб не працытаваць хоць кавалачак:

**А ён свае косьці з іржавых калючак**
**Сваімі рукамі без стогну аддзёр,**
**Зваліўся на травы, і стала балюча**
**І травам, і росам, і ветрам гаючым,**
**Што прыляцелі з валдайскіх азёр.**

Можна пісаць цэлае структуралагічнае даследаванне толькі пра дзве літары: р і л. У іх — іржавасць, рыданне, раны, роспач і ласка, літасць, лютасць.

А пра неперамажанасць жыцця, пра жывучасць побыту, пра знявагу смерці ў «Артабстрэле»:

**Раптам попел і цэгла**
**варухнуліся, чхнулі, усталі.**
**Дзіўным голасам чалавечым**
**у мяне запыталі:**
**«Дай браток, закурыць.**
**Ёсць тытунь — будзем жыць...»**

І спаконна-беларускае веданне сваёй геаграфіі і гісторыі, невынішчальна-геннае пачуццё ўсяго беларускага выказаў паэт і ў 1942 годзе ў вершы, які скідвалі самалёты лістоўкаю на акупаваную Беларусь, «Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю»:

**Ідзі, баец, ідзі, наш сокал ясны,**
**Цябе чакаюць Мінск і Беласток.**

Мяноўна Беласток. Падкрэсліў: Беласток — беларускі горад. Як бы адчуў, што пасля вайны бацька ўсіх народаў будзе памінаць сваіх Дзядоў чужымі клёцкамі, адкроіўшы ад Беларусі Беласточчыну, нават Белавежу падзеліць.

У год Перамогі ўспомніць Пімен Панчанка і старажытную сталіцу нашую ў далёкім Іране:

**І гэты пах тубыльны**
**Злуе байца.**
**Нясе**
**Яго ўспамін пад Вільню,**
**Дзе травы у расе,**

**Дзе хвоі над крыніцай**
**Лагодна так гудуць,**
**Дзе з малаком чарніцы**
**Увечары ядуць.**

Гэта не сённяшнія подпісы пэўных вучоных і пісьменнікаў і яшчэ людзей з пэўным заняткам з патрабаваннем калідору праз Літву, каб было выйсце да мора дзяржаве, чыю армію мы кормім, абкрадаючы свой народ.

У сорак першым роспачным паэт верыў:

**Пакуль сонца не згасне,**
**Пакуль свецяцца зоры,**
**Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь!**



Пімен ПАНЧАНКА, 1932 г.

Гэта крыху законспіраваны купалаўска-адраджэнскі кліч: «Жыве Беларусь!» Які, дзякуй Богу, зноў стаў гучаць вольна пад Бел-Чырвона-Белым сцягам нашым.

Пасляваййна. У агульным, у асноўным хвалаўзносістым гуле паэзіі культаўскага складу вершы Пімена Панчанкі вылучаліся сваёй нечаканасцю, хітрынкай, горкай усмешкай. Вядома, і кесару кесарава. Ратаваўся паэт у ваеннай тэматыцы. Гэтак і пісаў:

**Калі мая песня наго й хвалявала,**
**То тая, апранутая ў шынель...**
**Растрачана дзён незваротных нямала**
**На дробязь, на глупства, на тосты, на мель.**

У хрушчоўскую адлегу паэт піша самыя смелыя па тым часе вершы. Не лішне нагадаць хоць бы «Прыстасаванцы», «...На планеце ў нас усё бывае». Напярэдадні свайго саракагоддзя Пімен Панчанка канстатаваў:

**І гразь мясілі,**
**І ў бой хадзілі,**
**І ўладнай сіле**
**Радком кадзілі.**

У застойна-застольныя гады паэт узняў свой голас у абарону прыроды («Паэма майго лесу»), у абарону беларускае мовы.

**Пакіньце мне мову маю —**
**Пакіньце жыццё мне.**

З нядаўніх часін вядомы верш заканчваецца гэтымі радкамі, а не пад прымусам праўленымі.

У 1962 годзе жахлівым сном прыйшло да паэта, а паэт пра гэта папярэдзіў людзей, прадчуванне чарнабыльскае катастрофы:

**Смачна спіцца на пахкім сене...**
**Толькі скуль гэты жудасны гул?**
**Вадароднае землетрасенне!..**

**Хаты змецены. Курчацца коні.**
**Я бягу па абгрызках дарог.**
**Вецер хмары барвовыя гоніць.**

Да слова. Незабыўнаму Уладзіміру Караткевічу ў рэанімацыі прытрызнілася атамная вайна. Памятаю, як расказваў незадоўга да смерці.

У гады так званай перабудовы Пімен Панчанка першы загаварыў да болі сумленна, шчыра. І яго пачулі зноў удзячна і даверліва.

На ўсіх паваротах часу голас паэта, як гэта і належыць спрадвеку, гучаў і гучыць прарочa. Апошнім часам болей суму, болей болю. А вера жыве:

**Зязюля пачала**
**Адлік жыцця нам строгі,**
**А ў лесе зноў пайшлі баравікі.**
**Як спіны разагнём,**
**Паразумнеем трохі,**
**І злыдні не саб'юць**
**З народнае дарогі,**
**То нашай Беларусі**
**Жыць і жыць вякі!**

Паўвека назад у 1942 франтавым годзе вера глядзела на свет закаханымі вачыма:

**Будуць вечна сады расцвітаць,**
**Белагрудыя ластаўкі лётаць**
**І дзявочыя ногі таптаць**
**Залатую лотаць.**

Будуць!

Рыгор БАРАДУЛІН.

# ЗГАДКА 87 ГОДА

Пімену Емяльянавічу ПАНЧАНКУ

**Снег пульхны, зорны, навагодні.**
**Як у мястэчку, цішыня.**
**Паэт усмешкаю лагоднай**
**Сустрэў мяне ў пачатку дня.**

**Было на сэрцы урачыста:**
**Такое свята адзін раз.**
**«Глянь, на двары так снежна, чыста,**
**Так, як у Бегамлі у нас...».**

**Юнацтва у лясной старонцы**
**Паэта павяло на ўздым.**
**Маё бягомельскае сонца**
**Ён да вайны назваў сваім.**

**І усміхаўся вешчы Пімен,**
**Народа голас, слынны сын.**
**Імя святое для радзімы,**
**Бо ён цяпер такі адзін.**

**Калі ледзь не памерла слова,**
**Губляўся ў разнамоўі след,**
**Ягоны плач па роднай мове**
**Ускалыхнуў славянскі свет.**

**Бескампрамісная натура**
**Такую Бог, напэўна, даў,**
**У змрочны час наменклатуры**
**Ён алілуя не спяваў.**

**Радок не глянцава-ялейны,**
**Слязою коціцца з вачэй.**
**І ён спакоем юбілейным**
**Не пазалочаны яшчэ.**

**Чакаю, што напіша заўтра,**
**Бязмежна рад за земляка.**
**Па сіле шчырасці і праўды**
**Вышэй не ведаю радка.**

**Маё прызнанне-захапленне —**
**Не падсалоджана спяваць,**
**А да вяршыні набліжэнне**
**Такой, якую мне не ўзяць...**

**Сняжынкі лёгкія над намі**
**Сяйвом іскрыліся ў той час.**
**І снег парыпваў пад нагамі**
**«Так, як у Бегамлі у нас».**

**Юрась СВІРКА.**

**Пімен ПАНЧАНКА**

## Жыццё

Асенняю назолай —
Глухіх вятроў выццё...
Завеш сябе ты Зояй,
А я заву — жыццё.

Нас блытаныя сцежкі
Звялі пасля вайны.
Зайздроснікаў насмешкі,
Хоць не было віны.

Што за прыемнасць людзям—
Пляткарыць і маніць:
Ці тых мы сёння любім,
І ці пра тых нам сніць.

Жывём амаль паўвека,
Не крыўдзім мы людзей.
Запасы лепшых лекаў —
Складаюцца з надзей.

І сын Андрэй,
І ўнук Андрэй,
І праўнук ёсць Алесь.
Ты не сумуй і не старэй,
У гвалт кабет не лезь.

Таццяна — добрая дачка,
І дзве нявесткі здатных,
Я дачакаўся, прычакаў
Наследнікаў выдатных.

І Кацярынка ёсць у нас,
І падрастае Ксюша.
Я горка думаю не раз,
Як захаваць іх душы!

Да старасці падходзяць дні,
Ды нам часамі сорам,
Бо не хапае дабрыні,
А ў сэрцах ясных зорак.

А мы з табой па шмат гадзін
Глядзелі ў неба жніўнем:
Сусвет адзін, спакой адзін,
І перуны, і ліўні.

Храбрыўся за мяжой...
А чах
І сэрца забалела...
Шчаслівы быў, калі ў вачах
Бярозка забялела.

Калі дыхнула зноў сасной,
Настоем змалку родным,
Дзень добры, пах любімы мой,
Дзень добры, шлях зваротны.

А потым дом...
І ты ўжо спіш,
І ўспамінаць не варта —
Нью-Ёрк, і Лондан, і Парыж,
І вогненны экватар.

За ўсё мы цэнім даражэй
(Не передовак глупства),
Калі на сэрцы ў нас цяжэй —
Людское дабралюбства.

Суніцы ўжо не клічуць нас,
Баравікі не клічуць.
А дактары, які ўжо раз,
Рэцэпты павялічваюць.

Не сплю часцей, не бачу сноў,
Турботы невялікія:
Ці прыдзе Барадулін зноў,
А ці пазвоніць Быкаў!

А дзе Законнікаў Сяргей!
Ці забяжыць Вярцінскі!
І адэльфан запас сабе
Ад крывянога ціску.

Вось нараджэння хутка дзень,
І думаю міжволі:
Да нас, відаць, ужо ідзе
Наш сябр Аўрамчык Коля...

І так, пакрыты сівізной
(Не проста ўсё пражыта),
Я чую звон лісця вясной,
А ўлетку — шолах жыта.

Цягнік рассыпаў перастук,
Шаша скрыгоча тупа:
Яшчэ б прабегчы
Хоць з вярсту,
Пабачыць век наступны.

## Пасланне

Тамары ФАМЕНЦЫ,
талінскай беларусцы

Слова кожнае і кожны сказ бацькоўскі
Змалку трэба моцна бараніць...
Па дарозе доўгай, бруднай, коўзкай
Мовы матчынай запомні карані.

Плюй на клюкву...
Едзь у журавіны,
На балоце ягады збірай.
Да цябе мы прыкіпець павінны,
Журавінны, жураўліны край.

Кнігаўка заплача, піць папросіць,
Бусел заклякоча ў цішыні.
Гэта ўсё вясна, але не восень,
Жаўранак спявае ў вышыні.

І гаспадары, і гаспадыні
Пачастуюць, ды не будуць суцяшаць.
Знікла маладосць у горкім дыме,
Засталася добрая душа.

Велікодны дзень, альбо калядны,
На Купалле, ці на Сёмуху прыедзь...
Наша ўсё!
І смачна, і прынадна,
І гасцей чаканых будзем мець.

Гатаваць вы ўмееце мачанку!
А грузды!
Паказвай, шклянка, дно.
Я не п'ю, але налью вам чарку,
Нават з вамі вып'ю заадно.

Хто гэта чаўпе, што мы адсталі!
Хлусіць хто, што мы ўжо не народ!
Наляцела прагная навала,
Спекулянтаў і каўказскамоўны зброд.

Прыдзе з Таліна маленькае пасланне,
І набор цукерак — свята зноў.
Зноў яднанне, крэўнае спатканне,
Беларускіх дочак і сыноў.

Надакучылі нам скаргі і праклёны,
З цемры выбірацца нам пара:
Пра бярозы заспявай, пра клёны,
На якіх ізноў гарыць зара.

## Параны гарох

Адзін падніз, чатыры па баках
Бягомельскія плоскія каменні...
Я раскажу аб блізкіх дружбаках,
Як парыць мы гарох калісь умелі.

Нарвём струкоў зялёных аж паўторбы,
У яміну каменную кладзём.
А зверху шосты камень, самы добры,
Над ім агонь распалім, развядзём...

І ўвесь сакрэт.
Ачысцім яму ўмомант
Смачней за ўсё, распараны гарох.
Цяпер інакшы густ,
Інакшы смак і гоман:
Арганізуем на траіх альбо на трох.

# ЯДНАЕ НАС ПАГОНЯ

Неяк у электрычцы аднавясковец-афіцэр сказаў мне: «Беларуская мова стане дзяржаўнай, калі на ёй загаворыць армія». І ўсміхнуўся пераможна: маўляў, гэтага ніколі не здарыцца. «Вось ты і загаварыў бы першы, — падумаў я. — Маці твая — настаўніца. Бацька-нябожчык таксама не цураўся нашай мовы». Аднак услых нічога не сказаў. Па вачах і ўсмешцы зразумеў: гэты — не загаворыць!

Аднавяскоўца-афіцэра ўспомніў я, чытаючы нізку вершаў Станіслава Судніка ў красавіцкім нумары часопіса «Полымя». Паэт выказаў і мае думкі, і мой не надта вясёлы настрой.

А нас, мала, мой Божа, нас мала,
Не ўрадзіла нас болей зямля,
Кепска сонца яе саграваля
І была ўся з камення ралля.

Станіслаў Суднік — не філолаг. Наш зямляк з Нясвіжчыны, ён скончыў ваеннае зенітнаракетнае вучылішча і служыць у арміі, у Казахстане. Там дзеці вайскоўцаў-беларусаў вывучаюць родную мову і літаратуру, гісторыю Беларусі. Арганізаваў нядзельную школу ў сваёй часці Станіслаў Суднік. Падпалкоўнік. Педагог. І паэт.

Ніва святла. Бачыш, людзі ідуць
Словам святым прычасціцца,
Дух узмацніць і душу адамкнуць,
Ісцін адвечных напіцца.

Піша, гаворыць і вучыць людзей,
Леты мінаюць і зімы,
Камень за каменем мужна кладзе
У сцену будынка Радзімы.

Камень за каменем моцна кладзе,
Каб недавяркі і таці
Мову, культуру не ўкралі ў людзей.
Не прадалі разам з маці.

У той час, калі я служыў у арміі, такіх палымяных вайскоўцаў наогул не было. Калі б афіцэр загаварыў у казарме па-беларуску, на яго паглядзелі б як на нейкага адшчапенцавар'ята. І адлічылі б, можа, з арміі. Сумна адбывалі свой тэрмін паэты-радавыя, размаўляючы з родным краем толькі ў сне ды сам-насам з белым лістком паперы дзе-небудзь у зацішным кутку, далей ад пільнага вока камандзіраў.

Вершы Станіслава Судніка чытаюцца як адна патрыятычная паэма аб радзіме, аб яе людзях, жывых і мёртвых. Іх, беларусаў розных пакаленняў, умоўна можна разбіць на тры кагорты. Гэта нашы слаўныя продкі, памяць якіх свята ўшаноўваецца. Гэта мы ўчарашнія бязвольныя і без'языкія, што доўга «фальшывым кумірам служылі». І гэта мы — сённяшнія, гатовыя прыняць за адраджэнне Беларусі «зло зямлі і няміласць нябёс».

Дзе нашы карані? Хто яны, нашы продкі? Як любілі і шанавалі свой род, сваю зямлю, сваю мову? Якую спадчыну пакінулі нам?

Станіслаў Суднік звяртаецца ў сваіх вершах да мінулага, каб зразумець, што зберaглі і што страцілі мы, беларусы, пераходзячы з веку ў век. І ўваскрашае ў памяці гістарычныя падзеі людзей, вядомых і забытых, якія верай і праўдай служылі свайму народу. Хто — мячом і дзідай, хто — кніжкай на роднай мове, хто — малітвай у божым храме. Гэта сыны і ўнукі Усяслава Полацкага. Гэта і Ефрасіння Полацкая. Гэта і палкоўнік Максім Крыванос — бліжэйшы баявы паплечнік Багдана Хмяльніцкага. Гэта і безыменныя лесаўчыкі—беларуская лясная вольніца, сабраная панам Лісоўскім і кінутая ў пекла войнаў з Масковіяй. Твары гэтых людзей, як на абразах, выпісаны залацістымі фарбамі. А жыццё і подзвігі авеяны рамантычнай дымкай. Аддаленыя ў часе, яны кананізаваны ў вершах Станіслава Судніка, як святыя. І гэта апраўдана: лягчэй змагацца, працаваць і думаць, калі надзейны гістарычны тыл.

По зямлі сваёй грэшнай нагамі
Мы адмераем кожную пядзь,
Мы вятры супакоім сцягамі,
І шчытамі мы высцелем гаць.

Вершы Станіслава Судніка добра ўспрымаюцца на слых. Ад напалу пачуццяў высока ўзлятае голас, і яму лёгка жыць у звонкіх, як з медзі, словах: меч, дзіда, шчыт, браня, рацъ, рыцар, алтар... Рэха далёкіх бітваў коціцца з радка ў радок, не замірае на апошняй кропцы, а пераходзіць з верша ў душу, не даючы заснуць. І жывыя — не спяць: «год за годам Пагоня збірае нас пад светлыя сцягі свае».

Невялікая Беларусь, а людзі яе раскіданы па ўсім свеце. Раскіданы рэвалюцыяй і шматлікімі войнамі. Раскіданы голадам і страхам перад гвалтоўнай смерцю ў сталінскіх катоўнях. Ім, землякам на чужыне, прысвечаны верш «Дзеці сінявокай Беларусі». Гэта, бадай, адзіны верш у паэтычным строі якога красуюць ціхія словы: заранка, суніца, салоўка, крыніца, сад, буслянка, месячык... Але і гэта не ціхі верш, а верш-рэквіем па тых, хто памёр далёка ад «дзедавай казкі і матчынай песні». І верш-заклік да жывых беларусаў — яднацца, не забываць сваю бацькаўшчыну, шанаваць родную мову, каб прашчуры там, на небе, не адвярнуліся пасля сярдзіта, іхніх душ не пазнаўшы.

Шкадуючы і ўшчуваючы нашых землякоў на чужыне, паэт бескампрамісна асуджае і нас, учарашніх. Як жа сталася, што мы, беларусы, так доўга пачувалі сябе чужакамі на роднай зямлі? Мелі свой дзяржаўны лад, ды ўсё «прахам пайшло». Мелі мову, ды сталі «тлёй без'языкай». Горка і сорамна прызнавацца цяпер, аднак гэта праўда: не адно пакаленне беларусаў жыло-існавала з рабскай думкай: «Нейкператрэцца, абы горш не было». І дажыліся да жахлівага Чарнобыля, да бясхлеб'я і бязвер'я ў лепшы заўтрашні дзень. Не, ён не палохае, паэт, а перасцерагае: «Будзе горш, будзе, будзе! Мы ж да краю дайшлі». Як электрычны провад без ізаляцыі, б'юць яны, гэтыя аголеныя публіцыстычныя радкі. Каб кожнаму забалела! Каб кожны ад «бязволля здалеў страпянуцца!...»

І страпянуліся нарэшце мы, сённяшнія. Зноў грыміць, ляціць пад бел-чырвона-белым сцягам Пагоня. Яе рыцарывершнікі — хто ў світцы, хто ў латах — будзяць беларусаў: «Хопіць, хлопцы, хопіць спаць!» Не даюць чужынцамі быць ні далёка за мяжою, ні дома.

Радзіма-маці, памяць і надзея,
Мне радасна, што ты ўстаеш з кален
І на святло выводзіш ліхадзеяў,
Сціраеш з твару непагоды цень.

Пад знакам Пагоні напісаны вершы «Радзіма-маці», «Мы не ўсё беззаганна рабілі...», «Мы йнакшыя, мы йнакшыя...», «Наш Грунвальд», «Беларусь. Красавік-91», «Пагоня за мову». Розныя па задуме, кампазіцыі і мастацкай дасканаласці, яны — адзіныя ў сваёй патрыятычнай выснове: «Не саступім ні пядзі зямлі і ні слоўца радзімае мовы».

Станіслаў Суднік—новае імя ў нашай паэзіі. Нізка вершаў у «Полымі» — ягоны дэбют. І гэта адчуваецца па пісьме, не заўсёды роўным і метафарычна яркім. Часам слова не паспявае за думкай ці захлынаецца ў пачуццях і тады парушаецца вобразны лад верша — аўтар збіваецца на рыторыку. Дзенідзе, як пустазелле, пракідваюцца рускія словы. Прыблізныя і аблегчаныя дзеяслоўныя рыфмы таксама не спрыяюць майстэрству — слабее мускулатура радка. Аднак нізка вершаў у цэлым сведчыць, што ў літаратуру ідзе цікавы паэт. З абвостраным пачуццём адказнасці за лёс сваёй зямлі, за лёс нашчадкаў-беларусаў.

Я хацеў бы, каб вершы Станіслава Судніка прачытаў мой знаёмы аднавясковец-афіцэр. Ці ведае ён, што калегія Міністэрства абароны зацвердзіла праграму пераходу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на мову сваіх продкаў? І хочацца разам з паэтам выдыхнуць: «Ну то дзякаваць Богу. Жыве Беларусь!»

**Мікола МАЛЯЎКА.**

## НАШ КАЛЯНДАР

5 жніўня споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння САМУЙЛЁНКА Эдуарда Людвігавіча, празаіка, драматурга, нарысіста (памёр 12 лютага 1939 года). Дэбютаваў вершамі ў 1928 годзе. Выйшлі аповесць «Тэорыя Каленбрун», зборнікі апавяданняў «Пункт апоры», «Дачка эскадрона», «Паляўнічае шчасце», раман «Будучыня». Збор твораў у двух тамах ажыццёўлены ў 1952 годзе. Аўтар п'ес «Сержант Дроб» (інсцэніроўка аповесці «Тэорыя Каленбрун») і «Пагібель воўка».

●

8 жніўня споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння празаіка ЧАРНЫШЭВІЧА Аркадзя Дзмітрыевіча (памёр 18 студзеня 1967 года). Першыя апавяданні надрукаваў у 1940 годзе. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Суседзі», «Марцін Когут», «Праз зімы і вёсны» і іншых, раманаў «Світанне», «Засценак Малінаўка» ў дзвюх кнігах, твораў для дзяцей «У адной сям'і», «Зосін лужок», «Апавяданні старога Арцёма», «Складанец». Выбраныя творы А. Чарнышэвіча пабачылі свет у двух тамах у 1979 годзе.

●

10 жніўня споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння ЛЮТАВАЙ Веры Сяргееўны, рускай пісьменніцы (памерла 24 мая 1954 года). Выйшлі кніга вершаў «Воля да жыцця» і аповесць «Зарыва над лесам».

●

15 жніўня 70 гадоў з дня нараджэння драматурга і нарысіста (пісаў па-руску) ХАРКОВА Пятра Андрэевіча. Аўтар п'ес «Ад імя пакалення», «Вечны агонь», кінасцэнарыя «Пакуль б'ецца сэрца» і іншых твораў.

●

17 жніўня 85 гадоў з дня нараджэння празаіка КАВАЛЯ (КАВАЛЁВА) Васіля Пятровіча (стаў ахвярай сталінізму 29 кастрычніка 1937 года). Першае апавяданне апублікаваў у 1926 годзе. Выйшлі зборнікі «Як вясну гукалі», «На загонах», «Крыніца», «Выбраныя творы», кніжкі для дзяцей «Санька-сігналіст» і «Следапыты», што пабачыла свет ужо ў 1961 годзе.

●

Рыгору СУРУСУ — 50. Неўпрыкмет ён, выхаванец прафесара А. Багатырова, з маладых арыгінальных кампазітараў перайшоў у пакаленне сталых майстроў. Набыткі, з якімі сустрэў свой юбілей Р. Сурус, добра ведаюць слухачы, і не толькі на Беларусі. Гэта аперэта «Несцерка» (паводле В. Вольскага) і гераічная музычная камедыя «Трыбунал» (паводле А. Макаёнка), вакальна-сімфанічная паэма «Памяці герояў» і сюіта для вакальнага квартэта ды аркестра «Сватох» на народныя словы, эстрадная музыка і камерныя творы для розных інструментаў і многае іншае... За творчую працу кампазітар адзначаны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі.

багатая, сумнявацца не трэба. Нават паводле звестак, якія ёсць сёння, відавочна, што, напрыклад, у XVIII ст. амаль ва ўсіх больш-менш буйных беларускіх гарадах існавалі арганы, інструментальныя капэлы й хоры ў храмах розных ордэнаў і канфесій, а таксама разнастайныя свецкія аркестры: ад заходніх — раннекласічных і класічных, да ўсходніх — «янычарскіх», ад народных да прафесійных. Тут дзейнічалі музычна-тэатральныя трупы, працавалі мясцовыя і замежныя кампазітары, дырыжоры, вакалісты, інструменталісты, выкладчыкі, тэарэтыкі, музычныя майстры.

Здаецца, сёння мы не можам пахваліцца такой разнастайнасцю і інтэнсіўнасцю музычнага жыцця, якая была ў тыя часы, нават не толькі ў колькасці, умоўна кажучы, «жывой музыкі на душу насельніцтва», але і ў якасным сэнсе. Дастаткова прыгадаць тагачаснае аркестравае выканальніцтва — своеасаблівы індыкатар развіцця музычнай культуры ў цэлым. Ці аматарскае музіцыраванне і творчасць — тыповую для стагоддзя сферу музычнай практыкі. Варта адзначыць, што менавіта з творчасці музыкантаў-аматараў Беларусі пачаў сваё развіццё праграмны і драматычны паланез (з паланеза «Паляванне» Мацея Радзівіла, паланезаў Восіпа Казлоўскага і Міхала Клеафаса Агінскага). Ды і вакальны цыкл — жанр, які стаўся адным з найважнейшых у эпоху рамантызму: ён жа таксама «прадбачыўся» кампазітарам-аматарам Беларусі — Міхалам Казімірам Агінскім, чый цыкл песень быў надрукаваны яшчэ ў 1788 г. Цяжка перабольшыць і ўклад кампазітараў-аматараў Беларусі ў культуру суседніх краін: Восіпа Казлоўскага, які адчыніў сваёй творчасцю цэлы этап у музычным мастацтве Расіі даглінкаўскіх часоў, Эрнста Ванжуры (кампазітар чэшскага паходжання, што жыў на Беларусі), які стварыў першыя расійскія сімфоніі, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх, чыя музычная спадчына з'яўляецца агульнай каштоўнасцю і складае духоўны скарб некалькіх народаў.

Не хачу даводзіць, што «Беларусь — радзіма сланоў», але ўсё ж нельга адмаўляць той факт, што па ўзроўні развіцця кардынальных з'яў музычнага жыцця і па іх разнастайнасці гарадская музычная культура на беларускіх землях у XVIII ст. была не горшая за культуры іншых усходнееўрапейскіх краін. Ды і чаму яна павінна быць горшай, калі развівалася ў агульным з імі рэчышчы, па агульных законах, утрымлівала многія тыповыя для еўрапейскай музычнай практыкі рысы, маючы пры гэтым і свае асаблівасці, у прыватнасці, спецыфічную музычна-канфесійную «поліфанію» (як вынік суіснавання розных рэлігійных плыняў), а таксама надзвычайную дынамічнасць развіцця (прыклад таго — фантастычна хуткі і інтэнсіўны росквіт прафесійнага опернабалетнага тэатра, адной з самых складаных форм музычнай культуры).

І ў заключэнне яшчэ раз падкрэслю: вяртанне і глыбокае, на адпаведным узроўні вывучэнне нашай музычнай спадчыны можа дапамагчы, на маю думку, не толькі ўзбагаціць духоўнае жыццё народаў Беларусі, пазбавіць іх комплексу «музычна-гістарычнай непаўнацэннасці», зразумець месца айчыннага музычнага мастацтва ў агульнаеўрапейскім культурным працэсе, але і скласці больш адэкватнае ўражанне пра некаторыя «механізмы» і напрамкі развіцця самога гэтага працэсу. Бо ўяўленні пра яго застануцца шмат у чым няпоўнымі і няпэўнымі без дакладнага ведання музычнага мінулага Беларусі.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА.**

**ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ**

# «Вильнюс, Пинск, Москва...» — «этапы большого пути»



Выдадзена ў Любліне (Польшча) на расейскай мове і распаўсюджваецца на Беларусі брашура «На шляхах апостальства і экуменізму», прысвечаная вядомай у Польшчы каталіцкай дзяячцы Баляславе Лямент, заснавальніцы Супольнасці сясцёр-місіянерак Святой Сям'і.

Не буду пераказваць змест брашуры, пісанай каталіцкай манашкай Крысцінай Васілеўскай. Стыль аповяду — кананічна-панегірычны ў адпаведнасці з традыцыямі «жыцій святых». Цікаўнасць нашага чытача можа выклікаць іншае. Прывяду для прыкладу некалькі цытат.

«В то время на польских землях, присоединенных к Русской империи, поляки очень нуждались в помощи. (...) Мать Болеслава отправилась на воспитательно-религиозную работу в Могилев». Пытанне: з якога гэта часу Магілёў стаў «польскай зямлёю»?

Экуменізм (аб'яднанне рэлігій) чамусьці разумеецца польскім каталіцкім клерам як падпарадкаванне ўсіх хрысціян Папе Рымскаму, пры гэтым польскі ксёндз будуе сваю дзейнасць на шавіністычным «пастулаце»: «каталік — значыць паляк».

Цытую: «В Петербурге миссионерская работа развивалась прекрасно. Массово **возвращались** (падкрэслена мною. — **П. В.**) к вере православные и много было людей, потерявших веру, которых сёстры учили правде веры католической». Праваслаўны — гэта чалавек, які ўжо мае веру, навошта яму да веры «вяртацца»? Ці не ставіцца ў дадзеным выпадку праваслаўны вернік на адзін узровень з бязбожнікам? Праўда, у гэтым выпадку аўтарка выказваецца яшчэ неяк няўцямна, далей будзе больш дакладна.

«В миссионерско-апостольской работе среди католиков и православных Мать (Б. Лямент. — **П. В.**) просто спокойно, но решительно воздействовала на православных, возвращая их католической церкви».

«Православные под воздействием Матери Лямент начинали веровать», — вспоминал священник Е. Юневич».

У раздзеле «Продолжение дела» гаворыцца аб сённяшнім дні Супольнасці сясцёр-місіянерак. У мінулым годзе ў Рэспубліцы Польшча і за яе межамі налічвалася 40 прадстаўніцтваў Супольнасці. «В этих представительствах работает 314 сестер — профессионалок и послушниц».

Відавочна, што рускамоўнае выданне рыхтавалася ў «пажарным» тэмпе, ад гэтага — стылёвыя хібы. Не ведаю, ці прынята ў адносінах да рэлігійнай дзейнасці карыстацца тэрмінамі «прафесіяналізм», «прафесіянал» — бо лічыцца, што гэта не работа, а прызванне. Тым болей, што слова «прафесіяналка» мае ў рускай і блізкіх з ёй мовах некалькі сэнсаў...

Канчаецца раздзел словамі: «Исполнилось стремление блаженной Болеславы о возвращении сестер к деятельности на восточных территориях (Вильнюс, Пинск, Москва и другие)».

Пералічаныя гарады належаць тром суверэнным краінам, дык пры чым тут чыесьці «восточные территории»?

Канцэпцыю гэтага прапагандысцкага выдання можна зразумець, нават не гартаючы брашуру. На вокладцы — фотаздымак мапы з «рыжскаю мяжою». Вось, відаць, канчатковая мэта «шляху апостальства і экуменізму» — усходняя мяжа Рэспублікі Польшча, якой яна была на 1 верасня 1939 года. А можа, і гэта толькі прамежкавы этап?

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**



Помнік у гонар жанчын г. Венісьё.

Фота аўтара.

целася, нарэшце, пабыць аднаму, падумаць, занатаваць у свой блакнот хоць бы самае важнае, бо дасюль не мог гэта зрабіць. Скончыў пісаць далёка за поўнач, пасядзеў яшчэ ля акна. А потым расклаў ложак і праз колькі хвілін ужо спаў, як пшаніцу прадаўшы.

Кропка пастаўлена, але зраблю невялічкае адступленне. Напісаў «як пшаніцу прадаўшы», ды ўспомніў, што на Ушаччыне, ёсць іншы варыянт — «як салому прадаўшы». І тут мае землякі як у сук уляпілі: «Лацно таргаваць пшаніцаю, а ты паспрабуй салому прадаць». Не, ніколі не перастану здзіўляцца мудрасці і дакладнасці народнага слова!

# Роздум пасля вяртання

У час паездкі ў розных аўдыторыях мы часта гаварылі французам пра тое, што Рэспубліку Беларусь неабходна хутчэй прызнаць у якасці паўнапраўнага суб'екта міжнароднага права, што можна без боязі інвесціраваць яе эканоміку, развіваць з ёю навуковыя, культурныя кантакты, гандаль.

Прайшло сем месяцаў, за якія ва ўзаемаадносінах паміж нашымі краінамі многае змянілася. Адбыўся важны афіцыйны візіт дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у Францыю, падпісана Парыжская хартыя, у нас пачало працаваць французскае пасольства. Пры ўручэнні даверчых грамат Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Французскай рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Клодам Жаліфам Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч сказаў, што вывучэнне і асэнсаванне вопыту гістарычнага развіцця Францыі будуць садзейнічаць станаўленню Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы. Як не пагадзіцца з такімі словамі? Добра было б, каб яны хутчэй падмацоўваліся і канкрэтнымі справамі. Бо пакуль падстаў для эйфарыі няма.

Не ведаю, як да каго, а да мяне не прыходзіць ніяк адчуванне, што жыву ў дзяржаве, якая хоча папяровыя незалежнасць і суверэнітэт зрабіць сапраўднымі. Куды ні глянь, каго ні паслухай — усё той жа «северо-западный край российской империи», усё тое ж рабскае каланіяльнае мысленне. А да таго яшчэ любы наваспечаны расійскі палітык або генерал можа дзень пры дні паграджаць, што ўвядзе войска, каб «защитить русскоязычное население». Беларусам, як нікому, ад гэтых пагрозаў становіцца вусцішна, бо «пятая калона» ў нас велізарная. Ды і ўводзіць войска не трэба, яго хапае на самой тэрыторыі Беларусі. Прызнаемся шчыра, што спробу перавароту ў жніўні 1991 года многія насельнікі рэспублікі сустрэлі ўхвальна, што КДБ і армія былі гатовыя правесці «прафілактычную работу». Настроенасць на навядзенне «парадку жалезнаю рукою» застаецца. Пад бел-чырвона-белым сцягам, які лунае над будынкамі Саветаў усіх узроўняў і да якога многія ніяк не могуць прызвычаіцца, утульна размясціліся былыя, што сталі сённяшнімі, перасеўшы з аднаго крэсла ў другое. Раней імперскія паслугачы глядзелі на нацыянальнае адраджэнне паблажліва — «пускай себе поговорят, помитингуют, все равно у них ничего не получится». Цяпер жа, калі ад слоў ёсць пэўны пераход да канкрэтных захадаў, атака на суверэнітэт рэспублікі, на дзяржаўную мову, на шчырых і самаадданых працаўнікоў на ніве нацыянальнага адраджэння ўзмацняецца. Гэта пацвярджае і прызначэнне на адказныя пасады тых людзей, якія, нават у брэжнеўскі, такі паблажлівы да наменклатуры час, з грукатам выляцелі з кіраўнічых крэслаў.

Выдатна, што мы шпаркімі тэмпамі ўсталёўваем дыпламатычныя адносіны з многімі краінамі. Але не трэба забывацца на тое, што замежныя партнёры вельмі ўважліва вывучаюць стан палітычнага, эканамічнага, культурнага жыцця нашай рэспублікі. Яны ведаюць расстаноўку сіл у беларускім парламенце, ва ўрадзе, настрой людзей. Іх не можа задаволіць уяўная, падобная на зарад дынаміту з яшчэ не запаленым бікфордавым шнурам беларуская стабільнасць, якою любяць пахваляцца нашы кіраўнікі. Укладваць сродкі ў грамадства, якое стаіць на раздарожжы і не ведае, у які бок яму павярнуць, яны не будуць. Гэта тычыцца і Францыі.

А таму Рэспубліка Беларусь павінна хутчэй станавіцца сапраўды дэмакратычнаю, прававою дзяржаваю. Акрамя мудрага, ідэалагічна незашоранага, новага парламента, ёй неабходна сёння адладжаная, рашучая выканаўчая ўлада, але моцная не начальніцкім кулаком, а сваім розумам, інтэлектам, высокай кампетэнтнасцю і прафесіяналізмам, бо рашаць унікальныя, складаныя задачы станаўлення суверэннай дзяржавы даводзіцца ва ўмовах развалу эканомікі, масавага псіхозу людзей.

Адступаць ужо няма куды. Як бы цяжка ні было, мы мусім стаць цывілізаваным народам. І станем ім!

**P.S. Нядаўна з візітам у адказ у Беларусі знаходзілася дэлегацыя Камітэта Руху за мір дэпартамента Рона ў складзе Тэрэзы Хаонд (кіраўнік), Арлет Кавіён, Монікі Перын, Марка Мантэзін. У Беларускім камітэце абароны міру адбылася сардэчная сустрэча, абмеркаваны планы далейшага супрацоўніцтва. Французскія госці наведалі клініку НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне, Жодзінскую гарадскую бальніцу, перадалі лекі і медыцынскі інструментарый. Сустрэліся яны і з урачамі 3-й клінікі імя Я. Клумава, куды прывезлі спецыяльны апарат для правядзення аперацый на вачах. Дэлегацыю прыняў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Французскай рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь пан Клод Жаліф, яна ўдзельнічала ва ўрачыстасцях, прысвечаных Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь, наведала мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Кантакты беларускіх і французскіх прыхільнікаў міру будуць мацнець.**

Вусаты германец Фрыдрых Ніцшэ аднойчы прадэкларававаў: «Справа не ў вечным жыцці, а ў жыццёвасці вечнай!» Гэты лозунг быў пачуты і падхоплены на процілеглым баку Еўропы ў Іспаніі адным з вялікіх экзістэнцыялістаў Хасэ Артэгам-і-Гасэтам (1883—1955 гг.) Яго дзейнасць як філосафа пачалася напрыканцы XIX стагоддзя, але па-сапраўднаму ягоны талент праявіўся пасля першай сусветнай вайны, якая скончыла эпоху XIX стагоддзя (1789—1914 гг.). Іспанія, Еўропа і ўвесь свет перажывалі час новага станаўлення. З палітычнага небыцця выходзілі нацыі, на якіх, здавалася, гісторыя паставіла свой крыж. Сацыяльныя рушэнні сатрасалі дзяржаўны лад, мяняліся рэлігіі і нат сістэмы каштоўнасцяў і кожны дзень навука прыносіла адкрыцці. Усе гэтыя змены негатыўна адбіваліся на чалавеку, як на асобе. Ён зліваўся з натоўпам, рабіўся масай, нейкім жывым прыдаткам да сацыялагічна -эканамічных сістэм і тэхналогій. На абарону чалавека паўстала філасофія: Хэйзінга, Шпенглер, Швейцэр, Артэга-і-Гасэт — апошнія гуманісты XX стагоддзя. Заснаваны ў 1916 годзе Артэгам часопіс «Эль-Эспектадор» («Назіральнік») жыва азваўся на ўсе падзеі, як у самой Іспаніі, так і за яе межамі. У краіне між тым усчыналася смяротная бойка дзвюх таталітарных сістэм: камунізму і фашызму. Ідэі філосафа аказаліся варожымі для іх абедзвюх. Ад 1930 года філосаф пражыў у выгнанні. Вульгарная сацыялогія суправаджала яго жыццё і гады пасля смерці «шыльдамі»: абскурант, камуніст, ліберал, манархіст, атэіст і г. д. Але ў самой Іспаніі і за яе межамі ідэі «абскуранта-атэіста» нарадзілі цэлую філасофскую школу.

Прапануем чытачу артыкул філосафа «Падпсаваная дэмакратыя», змешчаны ў часопісе «Эль-Эспектадор» у 1918 годзе.

Сяргей ВЕРАЦІЛА.

**НАШЫ ПУБЛІКАЦЫІ**

**ХАСЭ АРТЭГА-І-ГАСЭТ**

# ПАДПСАВАНАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Усе добрыя падзеі, што адбываюцца ў свеце, набываюць у Іспаніі толькі бледны адбітак. І наадварот, дрэнныя адбіваюцца са здзіўляючай дакладнасцю і набываюць у нас большую інтэнсіўнасць, чым дзе.

У апошні час Еўропа пакутавала на заняпад ветлівасці, а ў Іспаніі непадзельна запанавала імперыя нявыхаванасці. Наша нямоцная раса адчувае сябе вельмі добра, калі нехта запрашае і заклікае яе заняць плебейскую позу, як хворае цела дзячыць за мажлівасць дэкадансу. Плебейства, якое дамаглося перамогі ва ўсім свеце, зараз бязлітасна тыраніць Іспанію. І як любая тыранія—недастатковая сама па сабе, дык пажадана, каб мы рыхтаваліся да рэвалюцыі супраць тыраніі плебейства, самай невыноснай сярод тыраній.

Мы павінны быць удзячны такой манархіі плебейства, што з'явілася ўслед за перамогшай дэмакратыяй. Пад аховай такой высакароднай ідэі пранікла ў грамадскую свядомасць сцвярджэнне ўсяго нізкага і шкоднага.

У каторы раз гэта адбываецца! Дабрачыннасць адной рэчы захоплівае людзей, і яны безаглядна пачынаюць служыць ёй, забываючыся на іншыя не менш дабрачынныя рэчы, якія з-за такога служэння робяцца несумяшчальнымі, а тая першая рэч губляе дабрачыннасць і набывае шкоднасць. Дэмакратыя, як норма права, строга кажучы ў палітычным сэнсе з'яўляецца аптымальнай рэччу. Раздражненая дэмакратыя, дэмакратыя ў рэлігіі і мастацтве, дэмакратыя ў мысленні і ў жэсце, дэмакратыя ў сэрцы ці ў звычках—гэта самы небяспечны гной, які можа выпакутавацъ грамадства.

Чым вужэй сфера ўжывання ідэі, тым больш у яе мажлівасцей праецыраваць сябе на розныя бакі жыцця. Уявіце сабе натхнёнага вегетарыянца, які заўжды глядзець на свет з вышыні сваіх вегетарыянска-кухонных звычак. У мастацтве ён забараніў бы ўсё, што не з'яўляецца агародным краявідам. У нацыянальнай эканоміцы ён развіваў бы толькі земляробства. У рэлігіі ён бы не пацярпеў іншых багоў, акрамя архаічных збожжавых. У вопратцы ён прызнаваў бы толькі нячэсаны лён ды лыка. І як філосаф ён распаўсюджваў бы толькі трансцэдэнтальную батаніку. Але нам здаецца не менш абсурдным чалавек, які падобна да многіх падыходзіць да нас і заяўляе: «Перш за ўсё—я дэмакрат!».

У такіх выпадках я звычайна згадваю показку пра аднаго служку, які забыў сваю ролю, і на ўсё, што казаў святар падчас казання, паўтараў: «Няхай славіцца таямніца святога прычасця!»—пакуль стомлены гэтым святар не азірнуўся і не сказаў: «Сыне мой, гэта добра, але не да месца!».

Несправядліва быць «перш за ўсё» дэмакратам, таму план, пра які гаворыць дэмакратычная ідэя,—гэта не першы план, гэта не перадусім. Палітыка—інструментальны парадак, ад'ектыў жыцця, адна з рэчаў, на якія мы павінны звяртаць увагу і ўдасканальваць наша прыватнае жыццё, каб выключыць з яго як мага больш няўдач і аблегчыць развой. Ці зможа палітыка ў якім-небудзь вострым моманце папярэдзіць нас аб прорве і ці дапаможа нам накіраваць энергію на пашырэнне арэалу жыццёвасці, на заваёву і на захаванне яе, але такое становішча не можа быць нармальным.

Гэта адзін з пунктаў, які мы павінны выправіць яшчэ з дзевятнаццатага стагоддзя. Пацярпеўшы такую цяжкую аберацыю ў інстынкце парадку перспектывы, аберацыю, што паставіла на першы план тое, што ў прыродзе перадапошняе і нат можа быць апошнім. Дасканаласць тэхнікі—гэта дасканаласць толькі знешніх сродкаў, што спрыяюць дасягненню вітальнасці. Няма нічога больш дыскрэтнага, апроч заняткаў удасканалення тэхналогій. Але рабіць гэта вырашальнай справай нашага жыцця, прысвячаць самыя тонкія пастаянныя намаганні гэтай справе—ёсць самая сапраўдная аберацыя. Так адбываецца з палітыкай, якая спрабуе артыкуляваць грамадства з дапамогай тэхналогіі прыроды, каб засталося месца для індывіда на палёх як можна больш, каб ён мог пашыраць уладу.

Так, дэмакратыя—чыста юрыдычная форма, якая не можа прапанаваць арыентацыі ў тых жыццёвых функцыях, якія не з'яўляюцца публічным правам. Значыцца, амаль для ўсяго нашага жыцця, калі мы рабілі дэмакратыю найважнейшай часткай існавання, плодзяцца самыя вялікія экстравагантнасці. Пакуль гэта толькі процілегласці самога пачуцця, якое нарадзіла дэмакратыю. Дэмакратыя нараджаецца, як высакароднае жаданне ратаваць плебс з яго нізкага становішча. Значыцца, дэмакратыя завяршыла толькі шлюб з плебсам, з яго звычкамі, яго манерамі, яго інтэлектуальнымі зрухамі. Экстрэмальную форму гэтага можна знайсці ў сацыялістычнай веры, таму што гэта дакладна—рэлігія, дзе ёсць пункт, у якім гаворыцца, што галава пралетарыя, гэта адзіная галава, якая здольная да сапраўднай навукі і адпаведнай маралі. У парадку звычая магу сказаць, што плынь майго жыцця супадае з гэтым працэсам заваявання вышэйшых класаў вульгарнымі манерамі. Гэта азначае тое, што мы выбралі для нараджэння не самую лепшую эпоху. Яшчэ да таго, як вышэйшыя класы падаліся лексічным і манеравым уплывам Авап'еса[1], было відаць, што вышэйшыя класы прынялі найбольш цяжкія характарыстыкі плебейства.

Любая інтэрпрэтацыя sloi-disant[2] дэмакратыі, як жыццёвага парадку, які не ёсць публічнае права — фатальны плебізм.

У перамозе над легіслатурай прывілеяў, над канстытуцыяй кастаў брала ўдзел і немалы тая маральная аберацыя, якую я называю плебействам, але і мацнейшы за яе—высакародны матыў руйнавання юрыдычнай няроўнасці. У колішніх рэжымах правы рабілі людзей няроўнымі і вызначалі становішча яшчэ да нараджэння. Не без нагоды мы адмаўлялі гэтым правам назву правоў: надавалі ім іншы сэнс і зневажальную назву прывілеяў. Здаровы нерв дэмакратыі—гэта ўраўнаважванне прывілеяў, а больш дакладна—правоў. Звярніце ўвагу, што «правы чалавека» маюць адмоўны сэнс—гэта дазорная вежа новай грамадскай арганізацыі, больш строга юрыдычная, чым папярэдняя, якая ўяўляе магчымае перараджэнне прывілеяў. Да ўжо вядомых заваяваных «правоў чалавека» мы павінны дадаваць новыя і новыя, пакуль не знікнуць апошнія рэшткі палітычнай міфалогіі. Таму што прывілеі, як я кажу, а не правы з'яўляюцца ацалелымі рэшткамі рэлігійных табу.

Нягледзячы на гэта, мы не можам прадбачыць, ці будуць мець будучыя «правы чалавека» такі важны рэзананс, ці змогуць змяніць воблік грамадства так, як ужо дасягнутыя, ці тыя, што на падыходзе. Будучыя «правы чалавека»—прыдумка і перамога, але мы даём проста ў рукі наступным пакаленням. Значыць, калі існуе жаданне зменшыць значэнне дчмакртыі ў справе ўраўнаважвання прывілеяў, дык можна сказаць, што мінулі яе слаўныя гады.

Калі юрыдычная арганізацыя грамадства застанецца ў гэтай палемічнай стадыі, што руйнуе рэлігійную арганізацыю грамадства, калі чалавек не ўбачыць плёну стварэння дэмакратыі, не толькі як першай спробы справядлівасці, якая адчыняе шырокія перспектывы раўнапраўя, унутры якога творыць новую больш справядлівую сацыяльную структуру, каб яна была справядлівай, але і каб была структурай, дык тэмпераменты пяшчотнай маралі праклянуць дэмакратыю і вернуць свае сэрцы да арганізаванага мінулага, праўда забабоннага, але ў рэшце рэшт больш арганізаванага. Жыццё—гэта перадусім і ў асноўным—структура: дрэнная структура лепш за яе адсутнасць.

[1] Мяшчанскі, буржуазны прыгарад Мадрыда.
[2] Так званай.

Калі я раней гаварыў, што недарэчна быць перадусім дэмакратам, дык цяпер дадаю: несправядліва быць толькі дэмакратам. Сябра справядлівасці не зможа спыніцца на ўраўнаважванні прывілеяў, на захаванні роўнасці правоў з-за таго, што ва ўсіх людзей ёсць аднолькавасць. Адчуваю аднолькавую неабходнасць упарадкаваць і ўзаконіць тое, што ёсць няроўнага паміж людзьмі.

Вось той крытэрый, які неабходны для абазнання пераходу дэмакратычнага пачуцця ў плебізм. Хто спрачаецца калі па-рознаму ставяцца да неаднолькавых, але не абураецца калі аднолькава ставяцца да розных людзей—не дэмакрат, а—плебей.

Эпоха, калі дэмакратыя была здаровым пачуццём і стымулюючым імпульсам прайшла. Тое, што сёння называецца дэмакратыяй,—ёсць дэгенерацыя сэрцаў.

Ніцшэ мы абавязаны адкрыццём механізма, які працуе ў дэгенератыўнай грамадскай свядомасці. Ён назваў яго: «ressint iment»[1]. Калі чалавек адчувае сябе прыніжаным з-за адсутнасці пэўных якасцяў: розуму, смеласці, элегантнасці, дык імкнецца да самасцвярджэння, адмаўляючы станоўчасць гэтых якасцяў. Як тонка паказваў даследчык мовы Ніцшэ—гэта зусім не выпадак лісы з вінаградам. Ліса працягвае лічыць, што самае лепшае ў ягадах—спеласць і адмаўляе гэту якасць толькі ў тых ягадах, што наверсе. Чалавек з рэсінтыментам ідзе далей, ён ненавідзіць спеласць і выбірае гнілое ды кіслае. Гэта ўсеагульная інверсія каштоўнасцяў. З-за яе пакутуюць вышэйшыя каштоўнасці і перамагаюць ніжэйшыя.

Чалавек з народа меў ці мае здаровую магчымасць да любавання. Калі ён бачыў праязджаючую ў карэце герцагіню, ён любаваўся і яму было значна прыемней капаць глебу планеты, на якой калі-нікалі адбываліся падобныя відовішчы. Ён любуецца і атрымлівае насалоду ад шыкоўнай прыгажосці, як мы любуемся золатам і каштоўнымі камянямі, якія ўрачыста дэманструе паміраючае сонца. Хто можа зайздросціць усходу сонца?! Чалавек з народа недаацэньваў сябе: ён усведамляў сябе іншым і меншым чым прадстаўнікі шляхецтва, але не заліваў свае грудзі атрутай зайздрасці. На пачатку Французскай рэвалюцыі адна вугальшчыца сказала маркізе: «Пані, цяпер усё пойдзе наадварот. Я буду ехаць у вашым паланкіне, а вы будзеце сваімі белымі ручкамі насіць мне вугаль». Адзін дробны юрыст, з тых, што склікалі народ да рэвалюцыі, падправіў: «Не, тавáрыш. Зараз мы ўсе будзем насіць вугаль».

Мы жывём у акружэнні людзей, якія недаацэньваюць сябе: амаль заўсёды з прычынай. Гэтыя хацелі б каб хутчэй была ўзаконена роўнасць людзей, роўнасці перад законам для іх недастаткова. Яны хочуць дэкларацыю аб аднолькавасці розуму, таленту, чулівасці і вышыні чалавечых стасункаў. Кожны дзень, на які спазняецца закон пра ўсеагульную роўнасць—гэта найцяжэйшы працоўны дзень для гэтых істотаў, якія ўсвядамляюць сябе маральным і інтэлектуальным плебсам людскога роду. Калі яны застаюцца сам-насам, дык ад уласнага сэрца ідзе пачуццё абыякавасці да саміх сябе. Немагчыма пры дапамозе дробных хітрыкаў адыгрываць важную ролю ў грамадстве. Грамадская слава на віду атручвае іх нутро і паказвае іх уласную дысгармонію, якая штохвілінна пагражае справядлівым заняпадам. Яны з'яўляюцца на ўласныя вочы, як фальсіфікатары саміх сябе, як фальшывыя кашалькі трагічнага выгляду, дзе кожная манета—чалавек, які стаў на шлях падману.

Гэты стан духа, падмочанага кіслатой, вызначаецца ў тых занятках, якія не патрабуюць прыдуманых якасцяў. Ці ёсць што-небудзь больш сумнае за пісьменніка, выкладчыка ці палітыка без таленту, без уласнага характару? Як мусяць глядзець гэтыя людзі пакусаныя інтымнай зайздрасцю на ўсіх, хто ходзіць і адлюстроўвае дасканаласць і здаровую самаацэнку?

Журналісты, выкладчыкі і палітыкі без таленту бяруць удзел у старэйшай дзяржаве зайздрасці, якая, як кажа Кеведа[2]. «Ідзе такая худая і жоўтая, таму што кусае і не есць». Тое, што сёння называем «грамадскай думкай» і дэмакратыяй, гэта ў асноўным гнойныя секрэцыі гэтых зласлівых душ.

Пераклад С. ВЕРАЦІЛЫ, І. БЭРРЭСУЭТЫ.

[1] Зайздрасць, незадавальненне (фран.)
[2] Іспанскі пісьменнік і філосаф (1580—1645 г.) Кеведа-і-Вільегас Франсіско.

# НАШТО КУСАЦЬ СПАНА ЗА ПЯТЫ?

(Пачатак на стар. 13).

нальную дзейнасць — павінна разглядацца як спроба прыцягнуць увагу дзяржаўных органаў да фактаў распальвання міжнацыянальнай варожасці. Усе захады ў гэтым накірунку зараз апраўданы. Непавага да адной нацыянальнасці аўтаматычна выклікае адмоўную рэакцыю ў адказ, стварае непатрэбную напружанасць.

Вось чатыры асноўныя, радавыя прыкметы «жорсткага» нацыяналізму на Беларусі, выяўленага журналістам «Народнай газеты». Зараз нам лёгка будзе пазнаць гэтага змея сярод «звычайнага» нацыяналізму. Ці не малавата аргументаў для такога эмацыянальнага артыкула? Ці трэба было А. Майсеню гэтак разыходзіцца? Вы толькі пачытайце, колькі экспрэсіі! «Жорсткі нацыяналізм» жыве ў адзіным духоўным вымярэнні. Гэта нацыянальная культурная аўтаркія, дзе кожная балотная купіна — але ж свая, нацыянальная — больш любая, чым усе вяршыні сусветнай культуры і духоўнасці». Гучыць так, быццам спісана з бальшавіцкай брашуры. Але ж гэтага, прабачце, пустаслоў'е. Бо невядома, што гэтак узрушыла аўтара.

Дарма, ох дарма накінуўся А. Майсеня на беларускіх патрыётаў. Яны ж яшчэ не дадумаліся друкаваць артыкулы, у якіх бы сцвярджалася, што рускай мовы ўвогуле няма. А расійскія патрыёты на старонках «Беларускай нівы» ўжо паставілі пад сумненне існаванне беларускай мовы, а значыць і беларусаў як народа. Ніхто ж з беларусаў яшчэ не рваўся ў Вярхоўны Савет Расіі з пагрозамі ў адрас народных дэпутатаў. А расіянін Жырыноўскі ўжо гэта зрабіў у Мінску і застаўся беспакараным. Так што, можа, ёсць патрэба паглядзець пільным аналітычным вокам журналіста на тых, хто больш за ўсіх скардзіцца, а сам падлівае масла?

Мне ўвогуле не падабаецца вольнае абыходжанне з тэрмінамі. Нацыяналізм — гэта, як я разумею, прапаганда нацыянальнай выключнасці і перавагі адной нацыі над іншымі. Словам «нацыяналіст» дужа злоўжывалі мінскія газеты ў часіны камуністычнай непрымірымасці. Дык што, зноў усё вяртаецца? Таму ж Пазняку колькі давялося чуць у свой адрас беспадстаўнай лаянкі, а зараз тыя, хто раней сядзеў як мыш пад венікам, сталі дужа разняволенымі і зноў на лідэра БНФ вешаюць сабак. Аб якім нацыяналізме ідзе гаворка? Можа, вы дзе-небудзь чулі або чыталі, як беларускі народ, старэйшы брат рускага народа, вывеў яго з цемры і галечы на шырокую прастору жыцця. Можа, вам хто казаў, што беларуская мова лепшая за рускую, багацейшая? Не чулі? І я не чуў. І ні ў аднаго беларускага нацыянальнага палітыка вы не знойдзеце такіх выказванняў. Дык чаго ж падымаць вэрхал?

Пытанні пашырэння беларускай мовы наўмысна заблытваюцца. Для таго, каб яе вывучыць на бытавым узроўні, дастаткова месяц папрактыкавацца. Што датычыць глыбейшага вывучэння, дык давайце ўспомнім усе тыя універсітэты марксізму-ленінізму, усе школы перадавога вопыту, або калектыўныя чытанні «Цаліны». Няўжо цяжка арганізаваць такія курсы, нават платныя, для вывучэння дзяржаўнай мовы? Ну хаця б з-за адной павагі да карэннага насельніцтва? З-за таго, што гэта славянская мова, мова брацкая?

Гарантую, што калі ў нас з'явяцца арганізацыі рускамоўных грамадзян, якія паставяць за мэту пашырэнне і распаўсюджанне беларускай мовы, адразу ж знікнуць прывіды нацыяналізму.

За нежаданнем вывучаць беларускую мову я бачу ляноту, капрызы, напышлівасць. А гэта не юрыдычныя катэгорыі і не трэба падключаць для іх тлумачэння Дэкларацыю правоў чалавека. Трэба быць чалавекам.

## Чаму не любяць «наших»?

Грамадзянінам сваёй дзяржавы можна быць альбо не, і трэцяга не дадзена. Я маю на ўвазе адчуванне чалавекам сябе як асобы, лёс якой непарыўна, амаль на генетычным узроўні, звязаны з лёсам свайго народа. Калі гэта ёсць, ты ўжо не можаш заставацца абыякавым назіральнікам тых падзей, што адбываюцца ў тваёй краіне, як не можаш быць абыякавым да таго, што будзе з тваімі дзецьмі або састарэлымі бацькамі. Ведаючы гісторыю свайго народа, ты ніколі не паставіш пад сумненне неабходнасць суверэнітэту роднай дзяржавы і ўсімі сіламі будзеш спрыяць усталяванню ў ёй атмасферы згоды і ўзаемаразумення паміж людзьмі.

А калі гэтага няма, паўстае толькі адно пытанне: якую краіну чалавек лічыць сваёю?

Сёння грамадзяне незалежнай Беларусі вымушаны жыць поплеч з грамадзянамі неіснуючай імперыі — СССР. Паралельнае існаванне дзвюх антаганістычных філасофій жыцця закладвае ў падмурак маладой дзяржавы бомбу страшэннай разбуральнай сілы, бо калі філасофія адраджэння накіравана на пошукі агульнай аб'ядноўчай платформы, дык філасофія імперыі вызначаецца непрымірымасцю, агрэсіўнасцю, пошукам ворагаў і гатоўнасцю лёгка праліваць кроў у імя нейкіх геапалітычных фантазій. Філасофія імперыі запраграмавана на гвалт. Гэта філасофія «наших» — люмпенаў, якіх лёгка пазнаць па фанатычным бляску вачэй, разяўленым у крыку роце, па ідэале ў выглядзе кавалка кілбасы. І гэта самае слабое месца палітычнай плыні, дужа падобнай на звычайны бальшавізм. Таму яе прапагандыстам прыходзіцца маскіраваць сваю агрэсіўнасць пад нешта сучаснае, або адроджанае былое. Адпаведна задачы выбіраецца і лексіка. У адным выпадку гэта «жыда-масоны», якія ўсё развалілі і прадалі Захаду, у другім — «наши», якіх крыўдзяць далёка за межамі Расіі, ў трэцім — «объединение патриотических сил», якое толькі і можа выратаваць нас з вамі.

Вельмі нечакана ўбачыў узор такой прапаганды ў чэрвеньскім нумары газеты «Рэспубліка» пад рубрыкай «Раздумья гимназиста». Шаснаццацігадовы юнак Усевалад Янчэўскі ў артыкуле «Что примем от вас, отцы?» пераказвае сутнасць філасофіі імперыі, вычытанай у расейскіх ура-патрыятычных выданнях, прычым у самым характэрным для такіх твораў жанры — жанры плачу. «Подобно урагану, пронеслась перестройка (справедливо именуемая «катастройкой») над некогда Великой землёй. И разрушил этот ураган всё то хорошее, светлое, духовное, что еще оставалось у нас», — пачынае запеў юны палітык, які да перабудовы быў яшчэ акцябронкам і, відаць, не ў стане ўсвядоміць, якую пачвару скінула яна (перабудова) з плеч нашага народа. Але дзядзі і цёці ўжо затлумілі яму галаву, абалванілі і штурхаюць у палітыку.

«Всем патриотам, стоявшим за единое и великое Отечество, неизменно приклеивали (да и сейчас приклеивают) ярлыки — «фашист», «партократ», «номенклатурщик», «красно-коричневый»...» Вы пазнаеце за гэтым пералікам твары настаўнікаў Усевалада? А што, калі невыпадкова менавіта такі артыкул з'явіўся ва ўрадавай газеце? Ці не гэтыя вось думкі перабіраюць нашы ўрадоўцы ды іх памочнікі ў цішыні сваіх кабінетаў, калі не трэба паказваць народу сваю прапрэсіўнасць: «Очевидно: ведущая роль в экономической области пока должна принадлежать госсектору», «Убеждён: ни в коем случае нельзя допустить превращения земли в предмет купли-продажи», «Моё мнение: ни в коем случае нельзя допустить силового смещения нынешнего Верховного Совета и правительства»? Сілай Вярхоўны Савет, быццам, ніхто змяшчаць, акрамя «наших», і не збіраецца, але ж трэба кінуць цень на рэферэндум. Словам, з чыіх песень перапевы, вам, шаноўныя чытачы, зразумела. А з якой мэтай усё гэта друкуецца?

«...Мне хотелось бы обратиться к своим сверстникам — старшеклассникам, учащимся, студентам, молодым рабочим, крестьянам: мы не должны остаться в стороне! Мы могли бы организовать молодежное общереспубликанское патриотическое движение», — заклікае аўтар, маючы на ўвазе расейскі патрыятызм, Расійскі народны сход і яго лідэраў Бабурына, Паўлава, Аксючыца, на якіх ён раўняецца. «Ведь ситуация развивается так, что к власти могут прийти националистические силы, которые... явно тяготеют к разрыву всех связей с Россией, установлению авторитарного режима и укреплению нашей зависимости от Запада».

Газета «Рэспубліка», прыкрываючыся ад крытыкі юнацкай постаццю, збірае сілы пад штандар філасофіі імперыі? Ці трэба гаварыць, што гэта ніяк не адпавядае дзяржаўнай палітыцы і што гэта — банальны выклік філасофіі адраджэння, імкненне стварыць напружанасць у грамадстве, падзяліць яго на нашых і «наших»? Амаль што па Леніне: газета гэта арганізатар, прапагандыст і агітатар. Пафас барадатых запечнікаў, расійскіх зіпуннікаў убіваецца ў галаву нашым маладым грамадзянам. Адкуль ім ведаць, што гэта ўсё ўжо было: ізаляцыянізм, «жалезная заслона», «урапатрыятызм», «слияние наций», славянафільства, «Москва, как третий Рим» і г. д., а разам з імі прыгнёт, гвалт, рабаванне, генацыд беларускага народа? Пра гэта мінскія рускамоўныя газеты не пішуць. Хоць ведаюць пэўна, што гіпербалізаваныя ўяўленні аб адной нацыі, як незвычайнай і богам абранай, прыводзяць рана ці позна да звычайнага фашызму, што эканоміка, пабудаваная на прымусе, ураўнілаўцы, на апаратных планах, ніколі не падымецца да ўзроўню свабоднай эканомікі.

## Цырк на дроце

Мінская газета «7 дней» летась заявіла сваю праграму на 1992 год: «В будущем году мы намерены продолжать взятый газетой курс на объективное и нейтральное освещение событий, происходящих в республике. «7 дней» не намерена быть ни с «правыми», ни с «левыми»... мы исходим из того, что газета должна быть средством массовой информации, а не массовой пропаганды».

У гэта мне неяк адразу не дужа паверылася: з абяцаннямі ў штотыднёвіка ўсё ў парадку, а вось з выкананнем. Успомнілася, што сямідзёнцы некалі абяцалі выходзіць і на беларускай мове, а потым сваіх падпісчыкаў падманулі, падсунуўшы ім толькі рускамоўны варыянт. Менавіта на гэтай глебе яны тады скандалілі з народным дэпутатам Я. Цумаравым, жаліліся чытачам на ўціск, і дэпутат, каб не было горшага ліха, пакінуў іх у спакоі. Тады ж у штотыднёвіку з'явілася нататка «Уж если считать деньги в чужом кармане, то без передёргиваний», у якой сцвярджалася, што газета дзяржаўнай бюджэтнай арганізацыі БЕЛТА нічога дзяржаве не вінна, а нават больш таго: плаціць падаткі, з якіх, напэўна, дэпутат Цумараў атрымлівае зарплату. Можа, гэта і так, высвятляць няма ніякай ахвоты, давайце проста паверым сямідзёнцам. Газета ж незалежная, проста так неяк само сабой атрымалася, што месціцца яе рэдакцыя ў добрых памяшканнях з тэлефонамі, карыстаецца настольна-выдавецкай сістэмай, друкуецца афсетам у Беларускім Доме друку... Галоўнае, што сямідзёнцы ніколі не стануць лічыць чужыя грошы ў чужой кішэні.

Праз 10 нумароў яны на гэта забыліся і паведамілі, што Навагрудскі завод газавай апаратуры пералічыў 50 тысяч рублёў для БНФ. А на пачатку года праверылі і другую кішэню БНФ у нататцы: «Сколько стоит пропаганда»: «По подсчетам рекламного отдела «Юкос» листок, отпечатанный тиражом 120 тысяч экземпляров, обошелся местному отделению БНФ примерно в 20 тысяч рублей». Што зробіш, цікаўнасць бярэ сваё, нягледзячы на публічныя заявы. Затое аб'ектыўнасць і нейтральнасць чытачам газеты гарантавана.

Вазьміце хоць бы артыкул «Развод по-черноморски», дзе апісваюцца настроі жыхароў Севастопаля ў сувязі з падзелам Чарнаморскага флоту і пазіцыя Украінскага тэлебачання ў гэтым канфлікце, якая, натуральна, не адпавядае маскоўскім поглядам: «На правильном, а большей частью на плохом украинском мичманы в интервью корреспондентам УТ говорили: «Як гарна в ридной Украине!».

Хай мяне выбачаюць сямідзёнцы, але ж я не веру. Лічу, што хлусня напісана і не нейтральная, а абражальная для ўкраінца. Тлумачыць, мабыць, не трэба...

Не адчуваецца дэкларараваных аб'ектыўнасці і нейтральнасці і ў матэрыяле «Нешуточные дебаты господ «демократов», дзе гэты ж крымскі канфлікт асвятляецца пры дапамозе цытат з журналісцкіх твораў. З боку Расіі выступаюць з кароценькімі стрыманымі заявамі Бабурын і Жырыноўскі, а з боку Украіны даюцца шматслоўныя ананімныя нацыяналістычныя заявы: «Наша цель — завоевание мира и установление нового украинского порядка. Наша задача, если хотите,— украинский рейх. Или мы полностью победим, поставив московскую орду на колени, или она уничтожит нас». Магу згадзіцца, што на Украіне знойдзецца вар'ят, які такое скажа, або напіша. А хіба ў Расіі няма вар'ятаў? Чаму ж тады ім не далі слова на старонках штотыднёвіка? І ўвогуле, пры чым тут дэмакраты?

Гэта стыль не толькі «7 дней»: гаворачы пра адно непрыкметна запэцкаць другое. Але сямідзёнцы дасягнулі ў ім вышэйшага пілатажу. Вельмі проста прывязаць да якой-небудзь гідоты нешта паважанае, сумленнае, любімае, аўтарытэтнае і зрабіць кактэйль, у якім усе гэтыя інгрэдыенты аднолькава брудныя. Вы паспрабуйце так павярнуць інфармацыю, каб чорнае стала белым, каб не прыйшлося многага выдумляць або замоўчваць. Хочаце прыклады? Калі ласка!

Нататка «Делим-делим, не поделим...» Пасля канікулаў навучэнцы беларускага ліцэя прыйшлі ў новы вучэбны корпус, пад які распараджэннем урада ім быў аддадзены былы партыйны будынак па вуліцы Кірава, 21. Навучэнцы прыйшлі, а іх класы ўжо занялі нейкія навукова-вучэбна-маладзёжныя канторы. Беларускія дзеці, замест таго, каб пайсці панурыўшы галаву жаліцца да свайго начальства, а потым абіваць парогі ў пошуках праўды, узялі ды адваявалі свой будынак. Вось як апісвае гэтую падзею «7 дней»: «Вход заблокировала воинственная толпа пикетчиков, среди которых были и дети... Во главе с преподавателями и родителями они решили быстренько выселить всех занимающих это здание... Пикетчики выбрали группу добровольцев, которая в течение дня дежурила у входа, дабы не выносилась их «маёмасць». Што тут скажаш? Малайцы дзеці! Яны добра вывучылі правілы гульні. Але звярніце ўвагу як падаецца інфармацыя. Спакойна працавалі паважаныя разумныя сур'ёзныя людзі і раптам на іх накінуўся ваяўнічы натоўп нейкіх ненармальных і выгнаў проста на вуліцу, не дазволіў, нават, нічога з сабой прыхапіць. Вось што робіцца на гэтай нацыянальнай глебе, вось як выхоўваюцца новыя нацыяналісты. Вось іх метады. А каб чытач усё правільна зразумеў, з'едліва ўстаўляецца ў расейскі тэкст беларускае слова «маёмасць». Гэтакае лёгкае «фе» праз ніжнюю губу. «Пострадавшие» возмущены: зачем же детей впутывать во взрослые «игры»?» Усё ж, на маю думку, не гэта, мабыць, узрушыла «пострадавших». Яны думалі, што раз гэта беларускі ліцэй, дык за яго ніхто дужа заступацца не стане, і пачнуцца ўгаворы пакінуць будынак. А тут узялі за шкірку, ды выкінулі. Нечакана, таму і крыўдна.

А вось прыклад на тэму беларускай мовы — нататка «Как «Родное слово» отзовется?». Разглядаецца адзін з выпускаў тэлеперадачы «Роднае слова». Аўтар нататкі інтэлігентна піша: «Любопытен подход «РС» к межнациональным отношениям. Ведущий весьма сомневался, что белорусы, украинцы и русские должны быть вместе... Аргументы? Да вот, дескать, белорусы и украинцы учат русский язык, а русские белорусский и украинский — нет». Чым слабыя на яго погляд гэтыя аргументы, аўтар не паведамляе, відаць, нікуды не папрэш супраць жалезнай логікі. Толькі адно ён можа сказаць, патаемнае, што не прынята пісаць у газетах, інакш адразу назавуць дзікуном: не хапала яшчэ прадстаўнікам вялікай нацыі вывучаць непаўнацэнныя беларускую і ўкраінскую мовы. Гэтага ён не гаворыць, затое робіць нечаканы выбрык убок: «Не пора ли... задаться вопросом о государственности не только белорусского языка, но и русского?».

Пытаннем аб дзяржаўнасці рускай мовы няхай «задаюцца» ў Расіі, а ў чытача пытанне да аўтара: чаму вам так карціць надаць статус дзяржаўнай вашай мове, якая свабодна развіваецца на ад-

ной шостай частцы зямного шара, якую ўсе на Беларусі ведаюць і вучаць, на якой нам кожны дзень тлумяць галаву маскоўскія і айчынныя сродкі масавай інфармацыі? Калі нават сто гадоў не вывучаць яе ў школах, а ўсё астатняе пакінуць так як ёсць, і тады ёй нічога не будзе пагражаць для Беларусі. Чаму вы лезеце ў абдымкі да беларускага «брата», набіваецеся ў сваякі, а самі зневажаеце яго сваёй пагардай, пыхлівасцю? Ведаеце, што беларуская мова ў цяжкім стане, ды замест падтрымкі закідаеце ёй на галаву свае боты. Нашто мне, скажыце, такія сваякі?

Газета «7 дней» не выконвае ўзятыя на сябе абавязацельствы і ніколі іх выканаць не зможа, бо вырасла на нашай глебе і хварэе на ўсе тыя балячкі, што і грамадства. Яна лёгка ўпісваецца ў кантэкст філасофіі імперыі, таму што глядзіць на падзеі з маскоўскай купіны, аналізуе іх з пункту гледжання расейскага патрыёта. Нездарма сярод «зорак» на яе старонках Няўзораў, Жырыноўскі, Дзічаў — адыёзныя, скандальныя фігуры. Нездарма гэтая газета робіць такую рэкламу камуністам, камсамольцам, партыям прамаскоўскай арыентацыі, асобам, накшталт прадстаўніка Камітэта выратавання Волгі Сяргея Шатохіна, які пра Волгу не гаворыць, а сцвярджае: «Мы имеем все перспективы стать в 21 веке цветущей цивилизацией... Славянская солидарность подвергается сегодня тяжелейшим испытаниям. Но противоречия между славянами ничто, по сравнению с внешней угрозой. Только единое геополитическое пространство и система коллективной безопасности дают шанс на выживание...». Чулі мы ўсё гэта, ведаем пра славянскую салідарнасць з цэнтрам у Маскве. Што нас пужаць асіміляцыяй, калі мы і так знікаем як нацыя?

На старонках «7 дней» знаходзіцца месца для паведамлення аб наборы наёмнікаў у Прыднястроўскую армію, даецца нават адрас, куды звяртацца. Але там няма месца пытанням Адраджэння беларускасці.

Уражанне такое, быццам пад купалам цырка нацягнулі дрот, прамы і бліскучы, а на яго ўзбіўся не акрабат, а канферансье. Замест таго, каб ісці да другога боку, ён учапіўся за дрот і крычыць, лямантуе. І не зразумееш, ці гэта ён так жартуе, ці сапраўды адтуль відаць нешта такое, чаго іншыя не бачаць.

Вазьміце падшыўку «7 дней» за гэты год і прачытайце толькі загалоўкі: „«Без Союза стало худо», «Куда там дедушке Сталину...», «Пойдём на душегубов с дубинами и граблями...», «Хуже некуда», «Кто еще не бастовал?», «Нужно ввести чрезвычайное положение», «Лихорадит нас, братцы», «Жить будем хуже», «Придется спасаться поодиночке», «Беспредел. Как жить дальше?». Стогны, плач і адчай. І не так ужо важна, што педалююцца звычайныя тэмы. Важна, што ў чытача складваецца трывалае ўяўленне ўсеагульнай здрады, бездапаможнасці, варожасці. Гэтае ўяўленне ўжо цяжка разбіць лагічнымі аргументамі, бо яно замацоўваецца ў падсвядомасці і аказвае ўплыў на дзеянні, выбар, псіхіку. Гэта якраз поле дзейнасці рэкламы, з той розніцай, што рэклама замацоўвае станоўчыя, прыемныя асацыяцыі, а стыль «7 дней» — нешта падобнае на псіхічную калектыўную маніпуляцыю.

Я менш за ўсё хацеў бы, каб журналісты штотыднёвіка ўспрынялі гэтую крытыку як варожую акцыю. Гэта не толькі іх, гэта агульная наша бяда. Шмат хто з нас лямантуе і пазірае ў бок Масквы, быццам адтуль прыйдзе нейкая дапамога. Трэба кідаць ілюзіі і брацца за справу — пабудову трывалай суверэннай дзяржавы. Калі мы самі ў яе не будзем верыць, дык хто ж паверыць?

**P. S. Мы перагарнулі толькі некаторыя старонкі мінскіх рускамоўных газет. [Артыкул А. Майсені ў памяркоўнай «Народнай газеце» можна разглядаць як праяву газетнага плюралізму. Звышэмацыянальныя беспадстаўныя матэрыялы для яе — прыкрае выключэнне]. Высновы чытачы могуць рабіць самі.**

**На заканчэнне можна сказаць: кожная вялікая з'ява ў нашым жыцці, да якой, безумоўна, адносіцца і дзяржаўны суверэнітэт нашай краіны, выклікае шалёнае супраціўленне з боку яе праціўнікаў. Але гэта як слон, што ідзе нетаропка ў сваім кірунку, не зважаючы на тых, хто блытаецца пад нагамі ды кідаецца да пятаў, якія так хочацца пакусаць.**

**Аляксандр ДУБРАВІН,**
**рэкламны рэдактар Беларускага радыё і тэлебачання.**

**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ**

# Масей СЯДНЁЎ: «У ТУРМЕ Я СТАЎСЯ ПАЭТАМ...»



Даю інтэрв'ю, адказваю на пастаўленыя Вамі пытанні. Адказваю, як магу. Баюся, што некаторыя мае сцвярджэнні могуць паказацца галаслоўнымі, ці надта катэгарычнымі, асабліва тыя, што тычацца савецкай беларускай літаратуры. Гэтыя сцвярджэнні абапёртыя не на нейкім аналізе, яны — толькі вынік маіх пабочных назіранняў, хутчэй дылетанцкіх. Я ніяк не хацеў бы недаацаніць бясспрэчных поспехаў нашай пакутнай літаратуры. Калі што не так, бяру грэх на сваю душу. Зрэшты, я нічога новага і не сказаў. Паўтарыў толькі агульнавядомыя палажэнні.

Просіце мяне расказаць пра свой творчы лёс? Я часта думаў — можа, гэта і наіўна,— што мой той лёс і быць не мог інакшым, чымся той, які мяне напаткаў. Ён, думалася, быў прадвызначаны не гэтулькі абставінамі часу, колькі дадзенай мне звышдоляй. Адчуваю, што гэта гучыць так, быццам тут дзейнічала нейкая сляпая сіла, фатум, дэтэрмінізм. Прынамсі, я так часам схільны думаць. Дый сваё пытанне, паважаны спадар Пранчак, Вы сфармулявалі ў плане таго ж фатуму: **творчы лёс.** І сапраўды, Вашая пастаноўка пытання, думаю, правамерная — лёс згуляў тут сваю ролю. «Пяснярская каляіна», на якую ўступілі многія таленавітыя беларускія песняры, скончылася для іх трагічна. Злы сталінскі геній умярцвіў іх. Дасталося і мне ад гэтага злога генія. Але я хачу сказаць тут не толькі пра злога генія, дэмана, а й пра светлых анёлаў, што ахоўвалі гэтых песняроў, хоць і не ўратавалі іх. Я гавару тут пра такі анёльскі дар, як талент. Колькі іх звялося, «неаплаканых нікім»! Дык «пяснярская каляіна», відаць, была наканаваная і мне, чалавеку Божаму. Яна прывяла мяне і да турмы. Гэта была, так бы сказаць, развязка майго лёсу. Выкажу тут парадокс — арышт замацаваў мяне на «пяснярскай каляіне», канчальна вырашыў мой творчы лёс. У турме я стаўся паэтам. Турма, канешне, не спрые таленту, яна нішчыць яго, але ў турме ў мяне не было цэнзара, у сваёй памяці я мог складаць усё, што хацеў, у мяне была свабода творчасці. Вось у якім сэнсе я гавару, што ў турме я стаўся паэтам. Але трагізм тут заключаўся ў тым, што, маючы творчую свабоду, я не меў свабоды фізічнай. Вось Вам і творчы лёс. Я не наракаю на яго, ён быў мне, відаць, прызначаны, і я спаўняў яго, як толькі мог.

Называю свае творы-кнігі: «У акіяне ночы» (Рэгенсбург, 1946), «Спадзяванні» (Рэгенсбург, 1947), «Ля ціхай брамы» (Нью-Ёрк, 1956), «Патушаныя зоры» (Мюнхен — Нью-Ёрк, 1975), «Ачышчэнне агнём» (Глен Коў — Нью-Ёрк, 1985), «Раман Корзюк», раман (Нью-Ёрк — Мюнхен), «І той дзень надышоў», раман (Глен Коў — Нью-Ёрк, 1987), «А часу больш, чым вечнасць» (Глен-Коў — Нью-Ёрк, 1989), «Очищение огнем», вершы, перакладзеныя ў расейскую мову Вадзімам Крэйдам (Голыёке, 1989, ЗША).

Вашае пытанне адносна феномену беларускамоўнага замежжа і ягонай ролі ў беларускай культуры можна разглядаць як надзвычайнае ў палітычнай і культурнай гісторыі Беларусі. Бо гэта ж першая беларуская эміграцыя ў поўным сэнсе гэтага слова. Беларуская эміграцыя дарэвалюцыйных часоў — гэта, сказаць бы, хлебная эміграцыя, яна не ставіла перад сабой ніякіх палітычных мэтаў і нічога не пакінула пасля сябе. Новая беларуская эміграцыя — гэта ўжо палітычная эміграцыя. Яна лічыць сябе пабornікам ідэі незалежнасці Беларусі, духоўным спадкаемцам урада БНР. Дарэчы, сімвалічна ён існуе яшчэ і цяпер. У часы найбольшага палітычнага і культурнага ўздыму беларуская эміграцыя, можна сказаць, **тварыла** Беларусь вонках Беларусі. Найбольшае намаганне палітычных кіраўнікоў эміграцыі было скіравана на прапаганду 25 сакавіка 1918 года, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), а то й проста прапагандавалася сярод Заходняга свету імя беларуса і ягонай краіны, як гэткай. Карацей, беларускую эміграцыю можна разглядаць як місіяніс цкую эміграцыю, хоць у яе не хапала сілы і сродкаў для гэтай місіянскай ролі. Што ж тычыцца літаратуры, культуры наогул, дык і тут яна была ці не ўсё той жа надбудоўкай, хоць, праўда, з другога боку, літаратуры беларускага замежжа, можа, найболей пашанцавала: за мяжой апынулася досыць вялікая група беларускіх літаратараў, што на пачатку былі даволі актыўнымі і здабыткі ў галіне літаратуры найбольш відавочныя. Выдавалася некалькі літаратурных часопісаў, да прыкладу, «Шыпшына», «Конадні», «Сакавік» і інш., пры газеце «Бацькаўшчына» быў заўсёды літаратурны дадатак. Была разгорнута выдавецкая дзейнасць твораў беларускіх класікаў, якія былі ў Беларусі пад забаронай. Можна было назіраць своеасаблівы росквіт беларускай культуры за мяжой, у тым ліку ў галіне навуковай, пераважна ў галіне літаратуразнаўства і мовазнаўства. Ды ўсё ж найбольшага поспеху, думаецца, беларуская эміграцыя дасягнула менавіта ў галіне мастацкай літаратуры, хоць гэтымі сваімі дасягненнямі яна абавязана выключна малому ліку ейных творцаў. Лік гэты можна зрэдукаваць да нейкага абсалютнага мінімуму. І я думаю, здабыткі беларускіх эмігрантаў у галіне мастацкай літаратуры рана ці позна ўвойдуць арганічнай часткай у беларускую культуру.

Вашае, спадар Пранчак, трэцяе пытанне — назваць творы беларускіх эмігрантаў, якія б сталіся прыкметнай з'явай у беларускай і сусветнай літаратуры — самае цяжкае для мяне. Магу з пэўнасцю толькі сказаць, што творы некаторых паэтаў і пісьменнікаў беларускага замежжа становяць сапраўды нешта адметнае і новае ў беларускай літаратуры. Што тычыцца твораў, якія б маглі ўвайсці ў скарбніцу сусветнай літаратуры, дык гэтае пытанне выдаецца мне досыць адносным і я не бяруся адказаць на яго. Я трымаюся думкі, што лепш недаацаніць, чымся пераацаніць.

Пытанне, што становіць сабой савецкая беларуская літаратура, — таксама цяжкае для мяне пытанне. Я не літаратуразнаўца і не крытык, да таго ж я недастаткова азнаёмлены з працэсамі ў сучаснай савецкай беларускай літаратуры. Факт застаецца фактам, што ў сучаснай савецкай беларускай літаратуры працуе не так ужо й мала сапраўды выдатных, высока адораных, таленавітых паэтаў і пісьменнікаў і яны вызначаюць ейны досыць прыкметны ўзровень. Аднак пры ейным неаспрэчным патэнцыяле яна магла б быць значна багацейшай, калі б вызвалілася, нарэшце, ад рознага роду рэгламентацыі, калі б яна перастала адлюстроўваць рэчаіснасць, а ўзнялася да эстэтычна-філасофскіх абагульненняў. Бо ж яна ўся ў надзённым, а не ў вечным. (Крый ты Божа, я не супраць надзённага!). Яна цягнецца за падзеямі, выконвае службовую ролю, у ёй яшчэ няма, ці бадай няма, метафізічнай глыбіні, нацыянальнага эрасу. У ёй нямала выдатных твораў — і дзякуючы ім яна жыве,— але і ў іх яшчэ можна назіраць рэцыдывы, як цяпер кажуць, застойных часоў. Літаратура, як вядома, заўсёды ў якасных, а не ў колькасных паказніках. У ёй мусіць панаваць, калі хочаце, дух арыстакратызму. Але такога культу ў ёй яшчэ няма. Яна адвярнулася ад Максіма Багдановіча, пайшла па дарозе сацыялагізацыі. Нельга тут не адзначыць і такога сумнага факту, як адсутнасць для пісьменніка надзейнай нацыянальнай базы, нацыянальнага грунту. Мова ў заняпадзе, а як тварыць беларускаму паэту і пісьменніку, калі беларус цураецца свае мовы? Гэта — трагедыя.

Цешуся, спадар Пранчак, што ў гэтым сэнсе ёсць пэўны зрух — беларус як бы пачынае ўсведамляць, што па-за беларускасцю ў яго няма шанцаў на поспех, што зрачыся мовы — азначае зрачыся сябе. Беларуская літаратура пачынае ачуньваць, набіраць сілы і імпэту, у ёй з'яўляюцца новыя таленты, зацікаўленне творчасцю беларускіх паэтаў і пісьменнікаў усё ж расце. Усё гэта стане запарукай вышэйшага эстэтычнага ўзроўню беларускай літаратуры. Без нацыянальнай літаратуры няма ж народу.

Пытаецеся, чым жа адрозніваецца эміграцкая беларуская літаратура ад беларускай савецкай літаратуры? Перш за ўсё эміграцкая літаратура — гэта малая літаратура, хоць, праўда, пісьменнік Васіль Хомчанка лічыць, што «...беларуская літаратура махае двума крыламі: адно крыло ў Беларусі, другое — у замежжы» («ЛіМ», 24 лістапада 1989 г.). Дужа цікавае выказванне. Калі ўлічыць літаратуру Заходняй Беларусі, дык, можа, за гэтым вобразным выразам можна прызнаць слушнасць, хоць літаратура Заходняй Беларусі даўно ўлілася ў беларускую літаратуру і як гэткай яе ўжо няма. Іншая адрознасць літаратуры беларускага замежжа — светагляд ная, адрозніваецца яна таксама і паводле свайго метаду: апрача рэалізму і рамантызму, вы знойдзеце ў ёй неакласіцызм і сюррэалізм. Я назваў літаратуру беларускага замежжа малой, бо ў ёй працуе (ці працаваў) усё-ткі малы лік творцаў, дый тыя, апрача літаратуры, каб пражыць, мусілі займацца іншай працай, у тым ліку фізічнай. Толькі сталы ейны актыў, нягледзячы на ўсе цяжкасці, трымаў сцяг гэтай літаратуры.

Ну, а падабенства літаратуры беларускага замежжа з савецкай беларускай літаратурай пэўна ж перш за ўсё ў агульных вытоках, творцы беларускага літаратурнага замежжа — выхадцы з Беларусі, яны жывіліся, казаў той, сокамі роднай зямлі, палымнелі замілаванасцяй да яе, дыхалі ейным паветрам і як правіла — успрыняцце Бацькаўшчыны беларускімі эміграцыйнымі пісьменнікамі і і паэтамі было заўсёды абвостраным. Слоў няма, літаратура беларускага замежжа — гэта, можа, адрозная, але адзіная плынь агульнай беларускай літаратуры і яе, эміграцкую літаратуру, трэба й разглядаць толькі ў гэтым кантэксце.

Чым для мяне з'яўляецца Беларусь? Без яе я не мог бы ўявіць сябе як паэта, хоць жыць давялося мне вонках яе, але сама гэтая акалічнасць, можа, нават стымулявала інтэнсіўнасць майго творства, ці лепей — пульс яго, можа, быў дзеля гэтага больш напружаным. А што тычыцца мовы, дык яна была не толькі сродкам, а нечым больш. Душой. Лекамі ў найцяжэйшыя часы. Я прыйшоў з ёй у гэты свет, нідзе з ёй не разлучаўся, яна была маёй духоўнай спадарожніцай. Мова і я — гэта адно. Без яе няма чалавека.

Што пішу? Хачу паспрабаваць сябе ў драматургіі. Пішу драму. Ёсць задума на новую празаічную кніжку. Але гэта — як Бог дасць.

11 снежня 1989 г.

**P. S. Хацеў бы дакінуць пару словаў да ўжо сказанага ў папярэднім лісце пра літаратуру беларускага замежжа. Ейныя творцы жылі ў тэрычэліевай, калі можна так сказаць, пусціні, у ізаляваным становішчы, ім не хапала свайго паветра, свае атмасферы, гукаў, колераў, паху сваёй зямлі. Яны жылі тым, чым надарыла іх іхняя старая Бацькаўшчына, яны варыліся, як кажуць, у сваім саку, але тым вастрэйшае было ў іх адчуванне Бацькаўшчыны. І яшчэ адно — у іх не было чытача. Паэт-эмігрант тварыў для сябе, спавядаўся перад самім сабою, шаптаў свае вершы, як малітвы, жыў надзеяй, што гэтыя малітвы некалі будуць пачутыя, успрынятыя.**

6 лютага 1990 г.

**Публікацыя Леаніда ПРАНЧАКА.**

Пачатак публікацый цыкла «Беларускае замежжа: жывыя галасы» ў нумарах 29, 31—32.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# А што на „крэсах“ магло змяніцца?

ПАЛЕМІКА «Глоса з-над Немна» з «Літаратурай і мастацтвам» цягнецца доўга. Паколькі «Глос» ёсць фактычна орган Саюза палякаў на Беларусі, трэба спачатку сказаць пра тое, што сёння ўяўляе сам гэты саюз.

З 418 тысяч палякаў на Беларусі да «звёнзку» належаць каля 20 тысяч чалавек, рэгіянальныя аддзелы СПБ створаныя практычна ва ўсіх раёнах Гродзенскай і ўва многіх раёнах Брэсцкай абласцей. СПБ, апроч газеты, мае свае праграмы на радыё і тэлебачанні, штаб-кватэру ў Гародні, рахунак і некалькі камерцыйных фірмаў. Іншых польскіх арганізацыяў па-за рамкамі СПБ на Беларусі няма. Такім чынам, гэта аднагчасова нацыянальны саюз, культурнае таварыства, палітычная партыя, гаспадарчая адзінка — адным словам, манапаліст.

За апошні год адзінай структурай, якая ў чымсьці «незалежная» ад СПБ, застаўся... касцёл. Гэтаму спрыяў паварот у польска-беларускіх міждзяржаўных адносінах, пачатак беларускамоўнай імшы ў сталіцы ды іншых месцах, заснаванне Беларускай каталіцкай грамады і шэраг іншых фактараў.

Тут цікава прыгадаць, што пісаў у «Глосе» сябра «зажонду глувнэго» СПБ Т. Малевіч гады два таму: «...цяпер жадаюць увядзення беларускай мовы да святой імшы. Гэтаму даём годны і рашучы адпор. У гэтай справе змагаемся нават з касцёлам, які схіляецца да ўвядзення беларускай мовы да імшы». Нядаўна гэтае змаганне трансфармавалася на старонках таго ж «Глосу» ў заяву-скаргу, падпісаную Т. Гавіным і Т. Малевічам, — на імя С. Шушкевіча, генеральнага пракурора М. Ігнатовіча і... трох каталіцкіх біскупаў Беларусі! Сутнасць заявы-скаргі — спыніце Беларускую каталіцкую грамаду, а то мы прымем свае захады.

Самае смешнае, што ў заяве-скарзе слушна адзначаецца, што справы касцельныя не ёсць справы дзяржаўныя і наадварот, але скіраваны дакумент «чохам» як духоўным уладам, так і свецкім.

Што здарылася? А проста з'явіўся канкурэнт у касцёльных справах, і гэтую БКГ трэба неяк «паставіць на месца», а то меншыя браткі-беларусы ад гэтай іхняй незалежнасці зусім параспускаліся... Па інерцыі «звёнзэк» працягвае ставіць на касцёл у змаганні за польскасць, не заўважаючы таго, што час змяніўся.

Гэта толькі здаецца, што калі ў савецкім пашпарце запісана, што ты паляк, і калі ходзіш да касцёла, то ты сапраўды такі ж, як у Варшаве, хіба толькі гаворыш па-расейску, бо халерныя Саветы так навучылі. На самай справе ад такога пераканання «еўрапейцам» не будзеш, носьбітам, а тым болей, стваральнікам польскай культуры таксама. А без гэтага — які ж ты паляк?! Вучыцца цяжка — прасцей схадзіць на імшу...

Тут варта прыгадаць вершаваную замалёўку з натуры Д. Бічэль-Загнетавай, надрукаваную ў беластоцкай «Ніве»:

**Супынена дратаванне адметнасці**
**ўладай савецкай, любіла сялянка-цётка**
**адметнае слова «цёнгле»,**
**молімся з польскім ксёндзам**
**прад Маткай Боскай Студэнцкай,**
**каб польскасць на «ўсходніх крэсах»**
**квітнела толькі ў касцёле...**

Па інерцыі ставячы на польскае адраджэнне **толькі** праз касцёл, як у былым СССР, дзеячы СПБ самі сябе загналі ў пастку, паколькі які б касцёл ні быў польскі, ён заўжды пільнуе перш за ўсё касцельных інтарэсаў. А інтарэсы касцёла ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, яго ўзаемадачыненні з новай уладай зусім іншыя, чым былі ў СССР. Калі «пры Саветах» касцёл быў уладай гнаны, ён не меў іншага апірышча, апроч польскасці ды палякаў ці каталікоў-беларусаў. Цяпер жа ў Рэспубліцы Беларусь касцёл талераваны так, што можа не толькі «трываць», але й пашыраць сваю дзейнасць, і калі імшу пад сцягамі суседняй дзяржавы ўлады доўга цярпець не будуць, то абсалютна натуральна, што й беларуская мова паціху ўваходзіць у касцёл, і дзяржаўныя беларускія сцягі. І зноў абсалютна натуральна ўзнікла БКГ, у якой ксяндзы былі ад пачатку і яе закладалі, а не былі «прыцягнутыя штучна», як часам пішуць браткі-палякі. Без ксяндзоў атрымліваецца не «хадэцкая» партыя, а пародыя на яе. Не верыце — спытайце ў Польшчы.

Здаецца, што манапалізм СПБ у польскіх справах перашкаджае дзеячам «звёнзку» — яны лічаць сябе абавязанымі ўмешвацца ў любую справу, якая, на іх думку, закранае польскія інтарэсы. Манапалізм вонкавы спалучаецца і з манапалізмам унутраным: маўляў, у нас дыяспара, нас мала, мы не можам «калоцца». У выніку атрымліваецца прыблізна вось што.

Неяк зімой «Глос» змясціў вытрымкі з выступлення ў Гародні старшыні БНФ З. Пазняка і кароткае інтэрв'ю з ім. Адразу ж да рэдакцыі завіталі некалькі старэйшых паняў з вялі-ікім абурэннем: «Як то?! Польска газэта бэндзе друковаць тэго шовініста бялорускего!!»... І ў наступных нумарах «Глос» мяняе кірунак на супрацьлеглы, хоць паралельна Т. Малевіч выступае на канферэнцыі мясцовага БНФ і «муві о вспулдзяланю». То як, «панове-браця», паўзці за генеральнай лініяй «звёнзку», каб не зламаць хрыбет?!

Другі прыклад. Вясной 1991 года СПБ і БНФ у Гародні ў супольнай заяве заклікалі сваіх прыхільнікаў галасаваць супраць СССР — і вось як пракаментавала гэта газета гаркома КПСС «24 часа», што знікла пазней разам з гаркомам. Тэкст нататкі прыводзім цалкам.

**«ПОЛИТИЧЕСКАЯ ФАЛЬШИВКА. В городе накануне референдума появились листовки, призывающие горожан голосовать против обновленного Союза, в подписи значится: «городская рада БНФ» и «городское общество Союза поляков». В редакцию обратились члены Союза поляков, возмущенные тем, что они не давали согласия на подобные призывы. За разъяснением ситуации мы обратились к заместителю председателя городского польского общества Станиславу Иосифовичу Почеоуту. Он сообщил редакции следующее: «На последнем собрании общества мы рассматривали вопрос о референдуме. Решили, что голосовать «за» или «против» — личное дело каждого члена общества. Так что призывать к определенному выбору от имени нашего общества недопустимо».**

Подпіс пад нататкай — «А. Андреев», дата газеты — «пятница, 15 марта, 1991 г.». Ну і як гэта разумець? Зноў дыяспара, плюралізм, правы чалавека, асаблівыя рысы польскасці?

Зрэшты, гэта ж унутраная польская справа...

Але «Гродненская правда» не так даўно надрукавала на тыя ж тэмы даволі вялікі ліст, дзе прыводзіцца прыклад, як на польскім вяселлі «патрыотычне наставёны» старшы пан ужо валіў адкрыта: хто гаворыць не па-польску — не пускаць у касцёл! Напэўна, нехта з чытачоў і падпісчыкаў «Глосу» паўзе проста за генеральнай лініяй...

Канешне, гэта быў не Т. Малевіч, напрыклад. Не пісаў **аж так** Т. Малевіч у «Глосе», а той дзядзька быў смелы ад гарэлкі. Але ж і па-цвярозаму шыпяць на беларускую мову ў касцёле «патрыёткі», і пана ксяндза да тэлефона не клічуць, калі пачуюць па-беларуску. А той ксёндз, можа, і ведаць не ведае... Хто бачыў?! Якія доказы? Зноў антыпольскі шавінізм, зноў абражаюць палякаў?!

Ну, добра... Адраджэнне — штука не заўсёды прыемная. «Тыгоднік Гданьскі» неяк пісаў, што на Беласточчыне ёсць вёскі, дзе ў краме папросіш па-польску хлеба — то не дадуць, ад патрыятызму. Напэўна, і тут будзе нешта падобнае, толькі наадварот... Але ж гэта, як кажуць у СССР, «издержки», гэта ж вёска. Калі местачковыя «палітыкі» так прагнуць пасля падпітку папароць адзін другога нажамі на нацыянальнай глебе, гэта іх справы ды іхняга ўчастковага. Але калі ў местачковым стылі, з істэрыкай, крыкам, судамі ды скандаламі гуляюць у палітыку інтэлігенты з дыпломамі, якія да таго ж «рэпрэзэнтуём інтарэсы вшысткіх полякув на Бялорусі», то колькасць такіх нажапаранняў у перспектыве павялічыцца. Ну, а каму гэта трэба? Пра што тады будзе крык?

Лідэры СПБ тлумачаць свае крайнасці тым, што, маўляў, у нас шмат людзей старых, яны так прызвычаіліся, іх ужо не зменіш... Але нават з чыста інфармацыйных матэрыялаў «Глосу» вынікае адно: тут ёсць Польшча, толькі Польшча і адна толькі Польшча — так выхоўваюць людзей маладых. Чытайце тую ж беластоцкую «Ніву», панове палітыкі. Вось што сказаў яе журналісту «нацыяналіст» і «пілсудчык» з Варшавы, лідэр Канфедэрацыі Незалежнай Польшчы, дэпутат Сейма Лешак Мачульскі:

**«Мы бачым у Беларусі дзяржаву, якая з'яўляецца спадчынніцай вялікіх традыцыяў... Была тут нейкая дзяржава, якую палякі часта хочуць называць польскай, але яна не была польскай. Была тут дзяржава, якая называлася дзяржавай двух народаў. Калі гаворым пра дзяржаву двух народаў, гэта перш за ўсё народ Белага Арла і народ Пагоні, а народ Пагоні — гэта перад усім беларускі народ...».**

Дарэчы, пан Мачульскі не зрабіўся «такім вось» толькі ў 1992-м. Калі пяць гадоў таму ў Кракаве адкрывалі помнік пахаванаму там беларускаму паэту і палітыку Алесю Гаруну, на могілках аднекуль з'явіўся той самы Мачульскі і публічна сказаў абсалютна тое ж, што пазней паўтарыў для «Нівы». Сведкі таму ёсць і тут, і ў Польшчы. І яшчэ для даведак — ажно да выбараў у 1990-м Мачульскі быў на нелегальным становішчы...

Так выглядае польскі нацыяналізм у Варшаве. А на Гарадзеншчыне чамусьці слухаюць толькі тых «палітыкаў», якія й прэзідэнта Леха Валенсу абвінавачваюць у тым, што ён «ешчэ раз спшэдал Польскэ москалём»...

Так што «трываць старых» можна па-рознаму, і «выхоўваць моладзь» — па-рознаму. Гэта ўжо хто на што здольны.

...Калі пры дэмакратах беластоцкіх беларусы пачалі цапацца й высвятляць адносіны, а таксама калі рэальна ўзніклі розныя інтарэсы, то адбылося натуральнае развіццё беларускага руху. Замест аднаго БГКТ узніклі самастойныя палітычныя партыі, студэнцкі БАС, маладзёжны саюз, Саюз праваслаўнай моладзі, літаб'яднанне «Белавежа» і г. д. — усіх ужо каля дзесяці. І кожнаму ёсць што рабіць!

А «больш цывілізаваныя» «паляцы на Бялорусі» вырашылі, што зручней мець адзін «звёнзэк» і адзін «зажонд глувны»... Х-м, а ці не зручней так кіраваць: спачатку «сваімі», а потым...

Вось на такія крытычныя думкі наводзіць апошнім часам «вострая палеміка» «Глосу з-пад Немна» з тыднёвікам «ЛіМ». Цікава, а што на гэта скажуць нашыя спадары і паны палітыкі?

**Алесь ЧОБАТ.**

м. Гародня.

ЛіМ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Спяваюць — заслухаешся!

Званне народнага нядаўна прысвоена фальклорна - этнаграфічнаму ансамблю «Маркаўчанка» Валожынскага раёна. Гэты самабытны самадзейны калектыў бярэ свой пачатак з 1968 года, калі ў вёсцы Маркава ўзнікла невялікая вакальная група. Цяпер «Маркаўчанка», мастацкім кіраўніком якой з'яўляецца заслужаная настаўніца Беларусі В. Зікунова, аб'ядноўвае 30 чалавек. Сярод іх не толькі тыя, хто стаяў ля вытокаў калектыву, а і моладзь. Але ўсе яны па-сапраўднаму ўлюбёны ў народную творчасць. Хораша спяваюць, заслухаешся! Нездарма «Маркаўчанка» папулярна і за межамі раёна. У прыватнасці, самадзейныя артысты выступалі на святах паэзіі ў Люцынцы, Вязынцы, Ракуцёўшчыне.

## Здвоены нумар «Пралескі»

Выдаткі цяперашняга, зусім нецывілізаванага рынку адбіліся і на часопісе «Пралеска». Як ні намагалася трымацца (змагла навярстаць усе мінулагоднія нумары), усё ж чарговы нумар рэдакцыя вымушана выпусціць здвоеным — сёмы і восьмы пад адной вокладкай і памерам... аднаго нумара. Што ж, як кажуць, гэта не па віне «Пралескі». Галоўнае ж, што марку сваю часопіс трымае ўпэўнена. І гэты нумар — не выключэнне.

У Гасцёўні «Пралескі» А. Марціновіч знаёміць з А. Вольскім («Прызнанне ад прызвання»). Пад рубрыкай «Наша Бацькаўшчына» — расповяд Я. Ліс пра беларускі народны тэатр лялек «Батлейка». Чарговыя старонкі апавяданняў па гісторыі Беларусі прапануе У. Арлоў («Ізяслаў і Брачыслаў»).

У нумары — беларуская народная казка «Зайкава хатка», гутарка галоўнага рэдактара часопіса А. Сачанкі з дырэктарам ВА «Гарызонт» С. Бойдакам — «Гарызонт» упэўнена глядзіць за гарызонт» (дашкольнае выхаванне і рынак), «Маладзічок - гадавічок» Т. Фаменкі на жнівень, песня «Дажджавая калыханка» (музыка У. Казбанава, словы В. Жуковіча)...

## Яшчэ адзін слоўнік

Пакрысе павялічваецца колькасць размоўнікаў, якія дазваляюць адпаведнаму слову з замежнай мовы (гаворка, безумоўна, не пра цяперашняе блізкае замежжа, якім сталі для нас колішнія рэспублікі былога Савецкага Саюза) лёгка знайсці беларускі варыянт, ці, наадварот, з беларускай мовы кінуць масток да замежнай. Толькі што ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі пабачыў свет «Французска-беларуска-рускі слоўнік». Выданне гэтае ўмяшчае сем тысяч слоў. Так што атрымаўся добры падарунак і тым, хто прыедзе да нас у суверэнную дзяржаву, і тым, хто мае намер пабываць за мяжой.



Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**



**Нумар падпісаны ў друк 21.08.92 у 18.10.**



Індэкс 63856
Тыраж 18068

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12